ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

7 ЧЭРВЕНЯ 1996 г. № 23 (3847) Кошт 2 500 руб.







# "Я ЖЫВУ — ШМАТ"...

Мастацкага кіраўніка і дырэктара Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Валерыя Маслюка найцікавей было заспець, мовім так, у шараговым будзённым існаванні-жыцці, у працэсе, які, рыхтуючы й мацуючы творчасць, больш падобны да вытворчасці. Калі да прэм'еры далёка, калі чарговы фестываль ужо адтрыумфаваў сваё, калі занятыя ўсе рэпетыцыйныя пляцоўкі і нават з адміністрацыйных кабінетаў чуюцца галасы не так акцёраў, як іхніх персанажаў...

Гутарку з Валерыем Маслюком выпала пачаць звыкла: на просьбу параўнаць колішняе жыццё тэатра і сябе ў гэтым жыцці з тым, што дзеецца цяпер (Маслюк распачынаў свой прафесійны шлях у Віцебску), ён гэтаксама звыкла ўздыхнуў. Маўляў, была б ты чужым чалавекам, дык схлусілася б само і вокам бы не міргнуў. А так... Навошта хлусіць? У свой час быў тут проста шчаслівым. Ды маладым. Ад якога залежала ўсё і нічога. А цяпер жыццёвы ды чалавечы груз стаў складанейшым. Калі ж гаварыць пра будучыню тэатра, дык хіба пра ягоны дух, душу, духоўнасць. Таму што без асабістага (патрэбы, вымогі, зацікаўленасці) ні ставіць, ні іграць спектаклі няможна. Мы ж, маўляў, не робаты, нас, маўляў, калі і можа што змяніць, дык толькі асабістае жаданне. Зажадаў Маслюк фестываль духоўнае энергіі тэатра. Спраўдзіў (цяпер дзякуе за падтрымку калегам, апантаным жадаючым...). На акцёраў сваіх, праўда, крыху пакрыўдзіўся: на спектакль Някрошуса, бачыце, усе прыйшлі, а спектаклі з Украіны ды Санкт-Пецярбурга для іх — кот у мяху, таму, атрымліваецца, увагі не вартыя? Званіў Алегу Яфрэмаву, нагадваў пра крэўныя сувязі: наш БДТ-2 — гэта ж студыя МХАТа! Залатвіў да сябе на гастролі МХАТ і Ленком. Увосень, 21 лістапада, на юбілей тэатра рыхтуе сюрпрыз...

*(Працяг на стар. 10)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ГАЛОЎНАЕ — ПАЧАЦЬ...



**Першы год пры Кобрынскім прафтэхвучылішчы N 105 народных мастацкіх промыслаў дзейнічае філіял Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, дзе рыхтуюць кадры па спецыяльнасці "Выяўленчае мастацтва, чарчэнне і народныя мастацкія промыслы". Пакуль на першым курсе займаецца ўсяго 25 чалавек, але ў бліжэйшыя гады тут плануецца адкрыць факультэт.**

*На здымку: у вучылішчы працуюць вопытныя педагогі — заслужаны настаўнік рэспублікі Антон Васільевіч Букач і загадчык кафедры Брэсцкага універсітэта Уладзімір Іванавіч Кулін.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## НЕ ТОЛЬКІ АБ СПАЖЫВЕ ДУХОЎНАЙ

**клапоцяцца ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Ведаючы, як цяжка даводзіцца сёння гаспадыням з гатаваннем чагосьці каларыйнага і разам з тым таннага, тут вырашылі выпусціць дапаможнік па кулінарыі. Зразумела, адпаведна часу. Так і з'явіўся даведнік "Стравы з субпрадуктаў". Параўнальна танная кніга, параўнальна танныя будуць і сняданкі... А калі набыць яшчэ даведнік "Стравы з яек", таксама выдадзены энцыклапедыстамі, дык і ўвесь дзень неяк можна пратрымацца...**

## РЭДКІЯ МАЙСТРЫ



**Аналагаў гэтаму майстэрству няма не толькі на Беларусі. Вучоныя-мастацтвазнаўцы знайшлі штосьці падобнае, што вырабляецца ў Англіі. Але па якасці, гранічна маленькіх узорах паспаборнічаць з гомельскімі майстрамі можа хіба што рускі Ляўша. Работы Уладзіміра Цэкунова сапраўды унікальныя — ён выкарыстоўвае малюсенькія стружкі розных парод дрэў, працуючы толькі пінцэтам. Стружкі укладваюцца ў сіметрычны ўзор дзякуючы асаблівай тэхналогіі склейвання. А самі шкатулкі выкананы з натуральнага масіву дрэва.**



*На здымках: майстар Уладзімір Цэкуноў (злева) і яго вучні Віктар Учкураў, Слава Цесля, Валянцін Новікаў; работы гомельскіх майстроў.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## СПАДАРЫНЯ... ГІТАРА

**Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская капэла" працягвае не толькі выканаўчую, але і выдавецкую дзейнасць. Апошнія намаганні ў гэтым кірунку — выхад зборніка нот "Беларуская гітарная музыка". У ім змешчаны творы Н. Гарэлавай "Мірскі замак", Я. Паплаўскага "Навэлетта" ("З пластычных сцэн "Людзі святла Месяца"), В. Жывалеўскага "Сьвяты" і "Элегія памяці Сяргея Палуяна" (дарэчы, В. Жывалеўскі з'яўляецца і ўкладальнікам зборніка). У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстаны гравюры і малюнкі Н. Орды, Ф. Рушчыца, М. Барздыкі.**

*Угодкі*

# СЛЕД, ПАКІНУТЫ "УЗВЫШШАМ"

***Па-рознаму можна ацэньваць дваццатыя гады. Лёгка знайсці ў іх шмат адмоўнага, што ў далейшым прывяло да ўзмацнення таталітарнага рэжыму. Разам з тым нельга не адзначыць, што гэта быў час, калі, як кажуць, станавілася на ногі народная гаспадарка, паспяхова развівалася нацыянальная культура.***

Безумоўна, сказаліся пазітыўныя зрухі ў літаратуры, працягваўся прыток у яе таленавітых прадстаўнікоў моладзі. А паколькі гэта быў час вострых ідэалагічных спрэчак, маладыя творцы імкнуліся аб'ядноўвацца, гуртавацца ў суполкі па інтарэсах і схільнасцях. Так 26 мая 1926 года ўзнікла Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне, што атрымала назву "Узвышша". Ініцыятарамі яго стварэння сталі былыя маладнякоўцы Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва, Язэп Пушча, Кузьма Чорны. Старшынёй выбралі К. Чорнага, намеснікам старшыні — К. Крапіву, а сакратаром згуртавання стаў А. Бабарэка. Ва "Узвышша" ўваходзілі таксама Змітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны, Лукаш Калюга, Максім Лужанін, Андрэй Мрый, Тодар Кляшторны і іншыя.

"Узвышша" ўзнікла не на пустым месцы, а як бы "вырасла" з "Маладняка". Тыя, хто выходзіў з гэтай арганізацыі, абгрунтавалі сваю пазіцыю на пасяджэнні Цэнтральнага бюро "Маладняка" ў дзень, што і стаў днём утварэння новага літаратурна-мастацкага згуртавання. Ад імя таварышаў, якія напісалі заявы аб выхадзе з "Маладняка", выступіў А. Бабарэка. Будучыя ўзвышанцы выказалі незадавальненне, што ў "Маладняку" вельмі моцныя пралетарскія тэндэнцыі, не надаецца належнай увагі мастацкай спадчыне, сцвярджаецца так званая тэорыя "калектыўнай творчасці".

Найбольш поўнае ўяўленне аб "Узвышшы" можна атрымаць, пазнаёміўшыся з яго праграмнымі дакументамі. Адзін з іх — "Камунікат беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша", датаваны тым жа 1926 годам, гэта — рашучая нязгода з тымі, што паспрабавалі папракнуць "адыходніцтва" у "ліквідатарстве", навесілі ім бірку выразнікаў дробнабуржуазнай ідэалогіі. Паколькі "Узвышша" прытрымлівалася пазіцыі знакамітай групы "Перавал", што працавала ў Маскве, і лозунгам узяло змаганне за высокую эстэтычную культуру творчасці, у дакуменце абгрунтоўвалася правамоцнасць яго. Рашуча адмаўлялася "маладнякоўская" арыентацыя толькі на асветніцкія мэты. Як і празмерная палітызаванасць у дзейнасці. Новыя ўмовы, на думку узвышанцаў, вымагалі іншага: "палітасвета — для палітасветных устаноў, літаратурныя згуртаванні — для развіцця літаратуры".

Ідэйна-эстэтычнай праграмай узвышанцаў стала заява "Ад беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша", што з'явілася годам пазней. Узвышанцы ўстрымліваліся ад суцэльнага захаплення станам тагачаснай беларускай літаратуры, не прымалі маладнякоўскую "бурапеннасць", указвалі на неабходнасць пераадолення эпігонства, звярталі ўвагу на вывучэнне сучаснага жыцця, выхаванне талентаў, на паляпшэнне моўнага майстэрства.

Гэтыя задачы былі канкрэтызаваны ў асобных артыкулах А. Бабарэкі, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, К. Чорнага і іншых.

Аднак пазіцыя ўзвышанцаў была сустрэта ў штыкі тымі, з кім яшчэ зусім нядаўна яны працавалі разам. А ў выніку з'явіліся тэндэнцыйныя, вульгарызатарскія выпады членаў аб'яднанняў БелАПП, "Маладняк", "Полымя". Выступленні часам мелі настолькі агрэсіўна-наступальны характар, што ўзвышанцам нічога не заставалася, як паспрабаваць... пакаяцца. Сведчанне таму — "Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша" пра палітычныя памылкі ў літаратурна-публіцыстычнай творчасці" (1930), у якой не толькі прызнаецца недакладнасць пэўных ацэнак у артыкулах, а і ўказваецца на ідэйныя праколы ў цыкле вершаў Я. Пушчы "Лісты да сабакі", паэмах "І пурпуровых ветразей узвівы" У. Дубоўкі, "Случчына" М. Лужаніна, "Калі асядае муць" Т. Кляшторнага...

З агледзін сённяшняга дня асабліва відочна, што ў выніку ўсіх выпадаў узвышанцы мусілі, кажучы словам паэта, наступаць на горла ўласнай песні. Інакш і не растлумачыш, што ў артыкуле "Пралетарскім шляхам" кіраўніцтва згуртавання адмаўляецца ад "нашаніўскіх традыцый старэйшага пакалення пісьменнікаў", а гэта, калі разважаць, было адмаўленне ад традыцый нацыянальных. А скончылася ўсё тым, чым у рэшце рэшт і павінна было скончыцца: у снежні 1931 года прайшоў агульны сход узвышанцаў, які прыняў рашэнне аб яго ліквідацыі.

Згуртаванне перастала існаваць, але вульгарна-сацыялагічная крытыка пра яго не забылася. І не толькі ў трыццатыя гады. Свой голас супраць узвышанцаў чарговы раз яна ўзняла ў пачатку пяцідзесятых...

Ды час нарэшце ўсё расставіў на месца. Канечне, ёсць за што "Узвышша" папракнуць (хоць бы за тое, што і самі ўзвышанцы калі-нікалі былі залішне катэгарычнымі ў непрыманні творчасці тых, хто не з імі, у прыватнасці, маладнякоўцаў; ды і іх стаўленне да вусна-паэтычнай творчасці народа не ўлічвала спецыфіку фальклору; асобныя іх заявы вытрыманы ў стылі свайго часу, з агульнымі, бяздоказнымі і абсурднымі абвінавачваннямі), але ж галоўнае, што яны ў многім спрыялі далейшаму развіццю нацыянальнай літаратуры.

А наколькі ўклад узвышанцаў вялікі, можна пераканацца, калі пазнаёміцца са зместам літаратурна-мастацкага часопіса "Узвышша", які выходзіў у 1927 — 1931 гадах: аповесць "Лявон Бушмар", раманы "Сястра", "Ідзі, ідзі", "Бацькаўшчына", апавяданні К. Чорнага, раман "Язэп Крушынскі", апавяданні З. Бядулі, аповесць "Ні госць ні гаспадар", апавяданні Л. Калюгі, творы У. Дубоўкі, К. Крапівы, Я. Пушчы, Т. Кляшторнага, С. Дарожнага, А. Мрыя. Але друкаваліся ў часопісе не толькі узвышанцы. Прынамсі, былі змешчаны казкі Я. Коласа і раздзелы з яго аповесці "У глыбі Палесся", апавяданні М. Гарэцкага, вершы М. Багдановіча...

**А. М.**

*Фрагменты*

# СІСТЭМНЫ ЗАНЯПАД

"Слабасць пралетарскага інтэрнацыяналізму і роднасных яму ідэй бясспрэчная перад традыцыйнай філасофіяй, якой бы яна ні здавалася старамоднай.

Звычайны пралетарый рэдка ўспрымае сябе пралетарыем. А калі і ўспрымае, то без радаснага перажывання сваёй салідарнасці з такімі ж, як ён сам. Пралетарская становішча любы чалавек марыць пазбавіцца заўжды, усё жыццё. Гэта — адна з пастаянных крыніц спецыфічнага неўрозу, які не натхняе. Дзе неўроз, тым больш пастаянны, там і актыўнасць, якую трэба лоўка скіроўваць. Аднак нявыдуманыя пралетары вельмі раз'яднаныя. Як іх ні яднай — тэндэнцыя да раз'яднання стала і найчасцей бярэ верх над сацыяльным уздзеяннем (...).

І дзеці, і старэйшыя, для якіх усё нацыянальнае — штосьці чужое, бо чужое само гістарычнае мінулае, недабіраюць не толькі ў этыкеце, але і ў маралі, у культуры працы, а таксама — у агульнай культуры. Агульная культура ў "пралетарскіх інтэрнацыяналістаў" працята спажывецкімі матывамі, матэрыяльным і сацыяльным утылітарызмам, нядбайствам, нават бязлітаснасцю да прыроды і ўсяго жывога.

Сярод найважнейшых патрэбнасцяў асобы (схопленых свядомасцю, калі яны не задаволены) ёсць патрэбнасць ідэнтыфікаваць сябе з канкрэтнай нацыянальнасцю і патрэбнасць свабодна карыстацца роднай мовай. У СССР была дапушчана сумная памылка: пры вялікай колькасці нацыянальнасцей ніводная па-навуковаму не разглядалася. Таму асоба цьмяна перажывае недастатковасць, а то і непаўнацэннасць уласнага развіцця, але не можа разглядаць напрамак самастойных намаганняў дзеля гэтага развіцця.

Фактычна адбылася дыснацыяналізацыя грамадзян. (Тут можна сказаць і "дэнацыяналізацыя")... Дыснацыяналізацыя мела вырашальнае значэнне для лёсу кожнага чалавека. Развіццё кожнага чалавека — гэта шырачэзныя патокі інфармацыі. Эфектыўна імі авалодаць магчыма толькі ў канкрэтнай сістэме. Ёсць адна — нацыянальнасць. Каб чалавек развіваўся нармальна, яму патрэбна нацыянальнасць, як і жывая мова. Пакуль што няма прыкладаў і небяспечна спрабаваць выхоўваць чалавека на аснове якой-небудзь штучнай мовы. Улада "інтэрнацыянальных пралетарыяў" ніводнай нацыянальнай мовы не любіла. І ніводнай нацыянальнасці — таксама. (...)

Вядома, нельга не спытаць у самога сябе пра чалавечае ўвасабленне інтэрнацыяналізму. Інтэрнацыянальныя ўсе разумова хворыя, яны аднолькавыя ўсюды. Інтэрнацыянальныя розныя тыпы, што далёка зайшлі ў сваім успрыманні ад будзённай працы; інтэрнацыянальныя бедалагі-старыя, што не нажылі з гадамі мудрасці; інтэрнацыянальныя закаранелыя п'яніцы. Інтэрнацыянальныя маргіналізаваныя, прастытуіраваныя, крымі-налізаваныя элементы.

Інтэрнацыянальная халтура ў мастацтве. Кіч, напрыклад, або праявы скарамінучай моды, сенсацыйнасць дзеля сенсацыйнасці. Інтэрнацыянальныя таксама павадзіны нармальнага чалавека, які не атрымаў першапачатковага нацыянальнага выхавання, а ўзгадаваны толькі па-пралетарску — інтэрнацыянальна; ён няздольны ўзняцца вышэй у рабоце розуму, чым разумоваадсталы. У стане інтэрнацыянальнасці можа аказацца ўвогуле кожны чалавек — і ў тым большай меры, чым больш ненармальныя і цяжкія выпрабаванні выпадуць на яго долю.

Недарэчна пытаць, якая, маўляў, нацыянальнасць лепшая для развіцця. Усе цудоўныя. Усе, так бы мовіць, правадзейныя. Толькі стаўшы часткай псіхічнага апарату, адна нацыянальнасць адкрывае сваім носьбітам доступ у свет і да каштоўнасцяў любой іншай нацыянальнасці. Шлях у мастацтва аднацыянальны. Колькі нацыянальнасцяў, столькі і шляхоў да духоўных заваёў чалавечага генію. Інтэрнацыянальны паход па геніяльнае бльтаны і цьмяны, хоць мроіцца самым прамым і слушным. (...)

Не толькі сціранне нацыянальных асаблівасцей "знутры" асобы, але і ўсялякія ўмовы — хоць бы дробязныя перашкоды — для праяўлення гэтых асаблівасцей вырастаюць у жорсткі наступ на самыя першасныя і таму жыццёва важныя свабоды. (...)

Параўнальна з дактрынай пралетарскага інтэрнацыяналізму дактрына савецкага патрыятызму засведчыла, несумненна, прызнанне краху сусветнай рэвалюцыі. Ідэалагічнае адступленне ўжо намнога пазней было пераафармлена ў "ваенна-патрыятычнае выхаванне". Але ўсё гэта — вехі адной рэакцыйнай дарогі, дыснацыяналізацыі. (...)

Няпроста выглядаюць і "агульначалавечыя каштоўнасці", да якіх звярнуўся на словах М. С. Гарбачоў. Ён мудра зрабіў, не ўдакладніўшы, што меў на ўвазе. Калі ж даверыцца пафасу гэтых слоў, то і марксісцкі пралетарскі інтэрнацыяналізм падаецца адной з агульначалавечых каштоўнасцяў. У тым ліку — пешчаная ім мастацкая культура. І ў шчырым клопаце пра культурнае адраджэнне лёгка зноў трапіць у доўгатэрміновы цыкл сістэмнага заняпаду".

**Сяргей БЕНЯДЗІКТАЎ**

*"Мастацтва", 1995, N 5.*

## НА ПАШЫРАНЫМ ПАСЯДЖЭННІ

бюро секцыі прозы Саюза беларускіх пісьменнікаў абмеркавана творчасць Ігара Валасевіча, Алеся Гары, Пятра Сабіны. У літаратуры яны аўтары не такія ўжо і новыя, паспелі выдаць кнігі. Два першыя з іх працуюць у галіне прозы, П. Сабіна выступае ў галіне дакументальна-мастацкай прозы. Старшыня бюро секцыі Л. Левановіч, В. Гардзей, У. Глушакоў, А. Капусцін, Я. Каршукоў, А. Марціновіч, В. Шымук, В. Шырко і іншыя адзначалі плённасць згаданых аўтараў у адлюстраванні рэчаіснасці, здатнасць ісці ў літаратуры сваім шляхам, паспяхова асвойваць новыя тэмы.

І. Валасевіч, А. Гара і П. Сабіна рэкамендаваны да прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

## З ВЕРШАМІ УЛАДЗІМІРА ПАЎЛАВА

можна пазнаёміцца ў чацвёртым нумары часопіса "Беларуская думка". Нататкі аб асаблівасцях тэатральнага працэсу бягучага сезона пад назвай "Тэатр шукае новыя формы" прапанавала Т. Арлова. Пытанні музейнага выхавання закранае ў выступленні "Браму скарбаў сваіх адчыняю..." М. Жыгоцкі. В. Шырко ("Страсці па "сініцы ў руцэ") знаёміць са справамі працаўнікоў Акцябрскага раёна. З публіцыстычных матэрыялаў прыцягваюць увагу "Культура з камісіёнкі" М. Куноўскай, "Пасрэднасць не даруе таленту, пярэварацень — асобе" У. Глушакова. Невядомую праўду мінулай вайны прыадкрывае ўрывак з кнігі былога следчага Міністэрства юстыцыі ЗША Д. Лофтуса — "Сакрэт брыгады "Беларусь".

## КУПАЛА ВЯРТАЕЦЦА Ў ПОЛАЦК

Роўна восемдзесят гадоў таму наш славуты пясняр упершыню пабываў на полацкай зямлі. Каля станцыі Баравуха стаяў тады дарожна-будаўнічы атрад, у якім і служыў малады сімпатычны афіцэр Іван Дамінікавіч Луцэвіч. Як успамінаў у 1980 годзе былы бежанец, якога лёс закінуў пад Баравуху, Мікалай Шыманка, "усе... у гутарцы паміж сабой вельмі добра адзываліся аб гэтым афіцэры..."

А семдзесят гадоў назад, 10—15 мая 1926 года, Купала з Адамовічам і Баліцкім наведалі Полацк, сустракаліся з грамадскасцю. Тады імя Янкі Купалы было нададзена школе-сямігодцы пры педтэхнікуме.

Пра ўсё гэта ішла размова на вечарыне, якую наладзілі ў полацкім музеі беларускага кнігадрукавання мясцовы гісторыка-культурны запаведнік, Дзяржаўны музей Янкі Купалы, міжнародны фонд песняра, Полацка-Глыбоцкая філія Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.

Слова пра Купалу казалі Сяргей Панізнік, Навум Гальпяровіч, Антаніна Хатэнка, Фаіна Ваданосава, Ірына Дарафейчук, Мікалай Ільніцкі. Свае песні выконваў бард Алесь Камоцкі.

А назаўтра на станцыі Баравуха была ўрачыста адчынена дошка аб знаходжанні там у 1916 годзе Янкі Купалы. Акрамя вышэйназваных літаратараў і музейшчыкаў у мітынгу з гэтай нагоды прыняў удзел прадстаўнікі выканаўчай улады Полацкага раёна, настаўнікі і вучні Баравуцкай школы-гімназіі. Гучалі вершы песняра і вершы аб ім, літаратурная кампазіцыя.

Н. К.

## УШАНАВАЛІ ЗЯМЛЯЧКУ

Вечарына, прысвечаная творчасці пісьменніцы Ірыны Жарнасек, адбылася ў Наваполацкай цэнтральнай бібліятэцы. У ёй узялі ўдзел бібліятэчныя работнікі, сябры па Полацка-Глыбоцкай філіі абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, артысты мясцовага тэатра "Час", вернікі Наваполацкай каталіцкай парафіі.

Шмат удзячных слоў у адрас пісьменніцы было сказана Алесем Жыгуновым, Марыяй Баравік, Алесем Аркушам, Навумам Гальпяровічам і іншымі. Прагучалі ўрыўкі з твораў Ірыны Жарнасек, яна сама падзялілася сваімі планамі і задумамі.

Н. К.

Віншуем!

# Алесю ДЗЯТЛАВУ — 60

"Росы на поплаве", "Белы месяц сакавік", "Сляды", "Вяртанне", "Парог" — гэтыя кнігі Алеся Дзятлава вабяць добрым веданнем аўтарам жыцця, яго ўменнем псіхалагічна-праўдзіва і неабыякава раскрываць характары людзей. І неабавязкова з неардынарнымі лёсамі. Пісьменнік з увагай ставіцца і да тых, хто знешне як быццам і не вылучаецца з шэрагу іншых. Але прыглядзішся да яго лепей, зазірнеш у душу і зразумееш — асоба ён. Гэтаму ўменню бачыць чалавека ў чалавеку, на будзённым, звычайным матэрыяле сказаць надзвычай шмат А. Дзятлаву дапамагае вопыт журналіста, што і навучыла яго "слухаць" само жыццё.

Алесь Мікалаевіч родам з вёскі Туркі Бабруйскага раёна. Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. У 1959 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у глыбоцкай раённай газеце "Сцяг камунізму", а ў 1961 годзе перабраўся ў Мінск. Нейкі час працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", карэспандэнтам газеты "Звязда". З 1980 года А. Дзятлаў працуе ў часопісе "Родная прырода", выступае з нарысамі, замалёўкамі, праблемнымі артыкуламі. І па-ранейшаму не развітваецца з прозай. З-пад яго пяра з'яўляюцца новыя апавяданні, аповесці.

З днём нараджэння, дарагі Алесь Мікалаевіч! Новых жыццёвых і творчых поспехаў вам на доўгія-доўгія гады!



Алесь ДЗЯТЛАЎ

# РАССТРЭЛ НА ПЯСЧАНЫМ ШЛЯХУ

***Напісаў раман "Над безданню." Твор вострасюжэтны, у цэнтры якога вечныя пытанні быцця: чалавек і абставіны, чалавек і сумленне. Падзеі адбываюцца на пачатку саракавых гадоў. Той цяжкі, супярэчлівы час засведчыў як высокую нязломнасць духу, так і агіднае прыстасавальніцтва, і здраду. Нялёгкі лёс вясковай настаўніцы Кацярыны, яе мужа пададзены на шырокім фоне жыцця народа.***

***Кавальчук, муж Кацярыны, несправядліва арыштаваны вясной 1941 года. У пачатку вайны вязняў адпраўляюць у тыл. Пра тое, што адбылося ў дарозе, гаворыцца ў раздзеле, які прапануем чытачам штотыднёвіка.***

**АЎТАР**

Іх вывезлі з турмы на чатырох грузавіках, бо паязды ўжо не хадзілі — недзе наперадзе нямецкія самалёты разбілі мост. Гадзіны тры ехалі спакойна, спачатку вузкай брукаванкай, потым павярнулі на пясчаны шлях, што віўся сярод густога, маладога барка. Кавальчук, ды іншыя вязні не ведалі, куды іх вязуць. Спачатку думалі, на расстрэл, але потым даўмелі, што не, кіруюць некуды на ўсход, да расійскай граніцы. Кавальчук вызначыў гэта па тым, што сонца, выбліснуўшы, біла прама спераду па ходзе машыны, свяціла праз дзіркі ў брызенце.

Самалёты з'явіліся нечакана, з усходу, з боку сонца; спачатку нарастаючы, страшны гул, часты, нервовы стук самалётных гармат — і рэзкі ўдар па машыне. На поўным ходзе яна з'ехала ў кювет, нахілілася, але не перавярнулася. Адкінуўшы брызент, адзін з канваіраў загадаў выходзіць; па-перш выскачыў сам і, наставіўшы рулю вінтоўкі, крыкам паганяў вязняў, і тыя спешна выграбаліся з кузава, паўзлі па высокай траве далей ад дарогі. Кавальчук скочыў на ўзбочыну, адбегся крокаў пяць, і ў гэты момант самалёты зайшлі для новай атакі. Падаючы, прыкмеціў, што дзве пярэднія машыны гараць: адна перавярнулася, ляжыць на баку каля шляху, другая палае на дарозе. Страшэнны гул заклаў вушы, самалёты прайшлі, здалося, над самай зямлёй, і выбух скалануў малады лясок: адна машына ўзарвалася.

Яны ішлі рэдзенькай калонай па пыле дарогі, радыя, што не зачапіла, а ззаду гучалі стрэлы: канваіры з наганаў дабівалі параненых. Двое салдат з ручным кулямётам пайшлі наперад, схаваліся за паваротам. Вязні брылі яшчэ гадзіны дзве, спыніліся адзін раз, каб у нейкай вёсачцы каля дарогі папіць вады. І зноў пакутлівы шлях галодных людзей па гарачым, бы прысак, пяску. Паперадзе ўсчалася страляніна, і канваіры занерваваліся; калона стала, але нікому не дазволілі прысесці, сысці на ўзбочыну. Кавальчук ішоў ззаду, у левым крайнім радзе, гэта яго і ўратавала. Спачатку ён убачыў, што падаюць на дарогу, курчацца ад болю пярэднія, а потым пачуў стук кулямёта, памкнуўся ўбок, да ковея, яшчэ нічога не цямячы, толькі падпарадкоўваючыся інстынкту страху, і ў гэты момант нібы хто паленам выцяў па назе. Паспеў ступіць два-тры крокі і потым паляцеў з адхону шляху ў траву. На нейкае імгненне ад пякучага болю страціў прытомнасць, чырвоныя кругі паплылі перад вачамі. Ачуняў ад стрэлаў, рэзкіх вокрыкаў і першае, што ўбачыў, рулю вінтоўкі зусім блізенька перад тварам, постаць канваіра. Асляпляльны агонь — і чорная бездань.

К вечару Кавальчук апрытомнеў і спачатку не мог даўмецць, што адбылося: поўны рот крыві, а наверсе, на дарозе, жалезны грукат; пыл, бы туман, павіс над лесам. Папярхнуўся ад смярдзючага бензінавага смуроду, ажно дыханне перацяла, у грудзях бы якая патырчака засела, не ўздыхнуць. Па шляху, равучы маторамі, ляскочучы гусеніцамі, сунуліся чорныя аграмадзіны танкаў; зямля дробна дрыжала пад іх цяжарам, нібы хто спадыспаду трос яе. І ўцяміўшы гэта, Кавальчук зразумеў, што ён жывы, хоць і паранены, скалечаны, заліты крывёю, але жывы. Ледзь не ўскрыкнуў ад шалёнай радасці, што не сніцца, ён тут, на зямлі, чуе, бачыць, адчувае боль. Касыя промні сонца пранізалі навылёт малады барок, уперліся ў сцяну пылу. "Ды гэта ўжо вечар, — забілася выратавальная думка. — Хутка сцямнее, адпаўзу, людзі памогуць. Значыць, калону нашу немцы перанялі, і ахоўнікі пастралялі ўсіх. А мо хто і ўратаваўся? Не, відаць, не, забілі ўсіх. Ім сведкі не трэба. Каго не скасілі з кулямёта, дабілі з вінтовак і наганаў. Сабакі, — прастагнаў Кавальчук. — Мы ж свае, не ворагі, адпусцілі б, далі вінтоўкі, разам былі б супраць немцаў. Падлюгі".

Быццам зноў убачыў перад сабой чорную дзірачку рулі вінтоўкі, чырвоны, потны твар канваіра, вар'яцкія, белыя ад страху вочы. Паспрабаваў перакаціцца на бок, але рэзкі, пякельны боль у назе працяў цела. Не вытрымаў, ускрыкнуў. Яго пачало задушліва, як не вываротваліся вантробы, ванітаваць, і новы страшны боль у шчацэ ўдарыў у галаву, як стрэл, рассек, бы шабляй, гэты грукатлівы жалезны надвячорак, і ўсё пагасла ў цяжкай цемры.

Ачухаўся Кавальчук ноччу ад холаду; на траве ляжала раса, вакол было ціха. Бляклае святло цурылася ад дарогі, з усходу, і ў няпэўным мроку бачыліся цёмныя абрысы дрэў. Сцяўшы зубы, асцярожна перакаціўся на бок, застагнаў ад пякельнага болю ў назе. "Гэта з кулямёта, — успомніў учарашні кашмар. — Добра шчэ, што ішоў ззаду. Пашанцавала, нізкавата ўзяў кулямётчык. Спяшаўся, хваляваўся. Немцы, выходзіць, выратавалі? Тыя танкі, што прарваліся і ішлі ўчора. Значыць, повідну пяхота пацягнецца. Трэба выграбацца адсюль, а то каюк, даб'юць".

Кавальчук ухапіўся рукамі за халодную, мокрую траву, сцяўшы зубы, выпаўз з кювета, азірнуўся на шлях. У пыле дарогі ляжалі трупы, раздушаныя, раздзёртыя гусеніцамі і коламі нямецкай калоны. Ад гэтага страшнага відовішча ён знямеў, уявіў, што і сам мог там ляжаць, калі б знецейкі не скочыў у кювет.

Не азіраючыся, папоўз далей ад дарогі. Курчыўся ад болю, сухое шыгалле раздзірала рукі. Дапяў да першых сасонак, яшчэ з гарачкі, хапатліва, задыхаючыся, гробся хвіліны тры па сухім доле, каб не прыкмецілі з дарогі, не пагналіся, не забілі. Сасмяглымі губамі датыкнуўся да пучка травы, што вытыкалася сярод шыгалля, злізаў кроплі расы, тыцнуўся тварам у зямлю, балюча выцяўся шчакой, заенчыў. "Страляў той, з белымі ад страху вачамі, нізкаросцы, губаты, — пакутліва прашаптаў, пасылаючы свой страшны праклён тым, хто па злой волі згубілі людзей. Не, цяпер ужо не дацягнецеся, рукі кароткія. Вось толькі б раны перавязаць, вады напіцца..."

Кавальчук дапоўз да маладой сасонкі, прыхінуўся спіной да ствала — хоць якое, ды апірышча. Сцягнуў цераз галаву кашулю, споднюю, разарваў на палоскі. Рана на назе вышэй калена, ужо закарэла, таму доўга важдаўся, пакуль спусціў штаны. "Хаця б не страціць прытомнасць, тады канец, — маліў Бога. — Перавяжу раны і папаўзу шукаць ваду. А калі пашанцуе, то людзей сустрэну".

Кавальчук не ведаў, дзе ён знаходзіцца, але меркаваў, што дзесьці за Дняпром, у лясах, дзе мала вёсак. Абмацаў нагу, распухлую, балючую і трохі заспакоіўся: костка быццам цэлая, куля прайшла навылёт, пальцы слухаюцца. Сяк-так перавязаў рану, каб не трапіў бруд, не было заражэння, абматаў шыю і шчаку. Ад высілення чырвоныя кругі паплылі перад вачамі, галава ацяжэла. Сонца пранізвала барок касымі промнямі, яшчэ нізкае, халаднаватае, але дзень абяцаўся спякотны. На шляху, далёка за лесам, узнік прыглушаны аддлегласцю гул, дзесьці на ўсходнім баку пачуліся грымоты. І ён раптам адчуў, і нават не адчуў, а нейкім звярыным інстынктам, які да пары, да часу дрэмле ў кожным чалавеку і праяўляецца ў самых адчайных і безнадзейных сітуацыях, уцяміў, што ў рэдкім барку пры дарозе яго ўгледзяць тыя, што набліжаюцца ў сваіх браніраваных машынах. А Кавальчук хацеў жыць, выжыць, і гэта прагнае жаданне авалодала ўсёй яго істотай, надало кволаму, зраненаму целу сілу. Сцяўшы ад болю зубы, узяўся абедзвюма рукамі за тонкі ствол сасонкі, каля якой сядзеў, з апошнім адчайным высіленнем падняўся, і быццам хто кальнуў у галаву вострым распаленым прэнтам. Каб не ўпасці, бо адчуў, што ўжо не зможа яшчэ раз устаць, з усіх сіл трымаўся за шурпаты стволік, чакаў, пакуль не сплыве з вачэй гарачы туман. Адчайна ступіў крок, з радасцю адзначыў, што нага слухаецца, што можна ісці. Зрабіў яшчэ адзін высілак, хістануўся наперад, але не разлічыў сілы, страціў раўнавагу і пляснуўся ніцма на сухое шыгалле, моцна выцяўся падбародкам і страціў прытомнасць.

Ачуўся ад густога гулу, які ішоў са шляху, са страху папоўз далей, пад навісь галін, зашыўся ў густы радок маладых бярозак, якія напалам рассякаў барок. Густы пыл вісеў над дарогай: як і ўчора, бясконца паўзла нямецкая калона. Зламаў невысокую бярозку, пазрываў галінкі — атрымаўся сукаваты нязручны кіёк, але хоць якое апірышча пры хадзе, падмога паранелай назе. Пасунуўся па прасецы, дзе было зручней ісці, пот заліваў вочы, кашуля ўзмакрэла. Ледзь дапяў да невысокага ядлоўцавага кусціка. Тут лес гусцейшы, трапляліся елачкі, зарасці папараці, лазовыя кусты.

Кавальчук не мог больш трываць, зняможана апусціўся на дол, знямелая нага гарэла пякельным агнём, ад смагі спяклося ўсё ўсярэдзіне. Адчуў, што вось-вось страціць прытомнасць, і гэта канец, больш не падымецца, сканае тут; апошнім адчайным намаганнем устаў і аберуч, саслабела трымаючыся за кій, пацягнуўся, хістаючыся, і толькі адна думка пульсавала ў галаве: ісці, не ўпасці, ісці... Вось толькі б дабрысці да вады, да любой лужыны, ручая, балота, глынуць хоць кроплю, бо ў роце нават сліны няма, а ў вачах чорна-аранжавыя кругі. Падаў у знямозе на дол, ляжаў, правальваўся кудысь у чорнае прадонне, але ачынаўся, і нейкая сіла падымала зраненае цела. Брыў і брыў да змогі, як дзікі звер, бо не хацеў паміраць.

Скрозь навісь галін Кавальчук убачыў светлы прагалак, і зашчымеў спадзяванак, што там людзі, вада, ратунак; зачыльгікаў, спатыкаючыся; але гэта надзея адняла ў яго апошнія сілы, адчуў, што гарачы тлум залівае галаву, ногі не трымаюць цяжкое, непаслухмянае цела; высільваючыся, ступіў яшчэ крок-другі і ў знямозе ўпаў на калені. Цёплая варухлівая хваля накрыла яго; ужо не цямячы, што робіць, гарачкавата загроб рукамі, ды было позна: чорная прорва імкліва панесла яго, закруціла і мякка апусціла дзесьці ўжо ў іншым свеце.

Але прырода не хацела адпускаць яго адсюль, маладога і моцнага мужыка, дала адпачыць і зноў вярнула ў гэты балючы, страшны свет, каб рухаўся, змагаўся за жыццё. Ён папоўз, абдзіраючы рукі, да таго светлага прагалку, бо гэта была яго апошняя надзея ў жыцці, ягоны ратунак. Больш нічога не было.

Вачам адкрыўся шырокі зялёны луг, густое кустоўе. Кавальчук ляжаў на высокім абрыве, уніз вёў круты пясчаны схіл, падпоўз бліжэй і не ўтрымаўся, пакаціўся, нема закрычаў ад нясцерпнага болю, які пранізаў усё цела. Халаднаватая ў цяні трава, на якую Кавальчук выкаціўся, пакрысе заспакойвала яго. Піць, піць — уся яго істота прагла хоць глытка вады, хоць паўглытка. І ён, быццам без памяці, як сляпы, папоўз да густога лазняку. Нага ўжо не чулася, і ён цягнуў яе, бы чужую; пякельна гарэла шчака. Калі, здалося, сілы пакідаюць яго, адчуў пад правым локцем зыбкі травяны подсціл, пачуў прэсны пах балота. Паўзці ўжо не мог, тыцнуўся тварам у шорсткую асаку, крыху аддыхаўся і ўхапіўся рукамі за купінку, падцягнуў балючае цела бліжэй да кусціка і на апошнім высілку перакаціўся на бок да светлага стаўка, зарослага зялёнай раскай. Прагна прыпаў распухлымі губамі да цёплай вады, хапянуў глыток, выплюнуў лісцікі раскі і сутаргава пачаў піць.

Сонца высакавата стаяла над лесам, сосны на касагоры ажно свяціліся ў промнях, але нічога гэтага Кавальчук не бачыў: ляжаў у непрытомнасці ў густой маладой асацэ каля самага стаўка. Як праз сон пачуў, што нехта тоўхае яго ў спіну, пнецца выцягнуць на сухое месца, на імгненне ачуўшыся, зноў паплыў у чорнае прадонне. І раптам як стрэлілі ў галаву, боль пранізаў, ударыў нечакана. Той, хто стаяў каля яго, падаўся назад, спалохана спытаў:

— Што з табой, чалавеча?

Голас старэчы, спагадны. Ён ішоў да Кавальчука быццам з другога свету, мройлівага, гарача-мітуслівага, балючага, і туды, у рэальнасць, не хацелася вяртацца, зноў адчуваць боль, страх. І ўсё ж паранены адплюшчыў вочы, сонца слепка секанула, апякло агнём, але ж гэты нечаканы пробліск яркага святла ў душным цемрыве ўраз вярнуў яго на гэты свет.

— Свой я... памажыце, — прашаптаў ледзь чутна, бо рот бы спаліла агнём, язык распух.

— А хто ж цябе етак?.. Паранены ці што?..

Кавальчук адплюшчыў вочы — перад ім, схіліўшыся, стаяў сівы дзядок, апіраючыся на кіёк.

— Счас... счас... вады прынясу, — дзядок памкнуўся да балотца, дзе метраў за пяць ад берага цурыўся неглыбокі ручай, зачэрпнуў шапкай вады, подбегам паднёс да параненага. — Пі, пі, яшчэ прынясу, — ён быў рады, што чалавек ажыў, таму замітусіўся, борздзенька збегаў яшчэ раз да ручая.

Кавальчук пачуў сябе лепей, памкнуўся ўзняць галаву, але ад болю застагнаў, бяссільна апаў на асаку.

— У мяне посцілка ёсцека, ускоцішся, то я цябе тады выцягну на сухое, — дзядок падбег да калёсак, якія стаялі воддалек, прынёс зрэбную дзяружку, разаслаў на траве. — Грабіся, а я падмагну табе.

Кавальчук перакаціўся на бок, падцягнуўся на руках, папоўз на посцілку.

— Вось і добра. Цяпер каб ты на калёскі ўспоўз, то я цябе ў вёску завязу, — дзядок цяжка дыхаў. — Ета ў шыю цябе і ў шчаку?

— І тут, і ў нагу яшчэ, — прашаптаў Кавальчук. — На шляху, немцы...

— Ай, яй-яй, — дзядок засмаліў самакрутку, прымерваючыся, як лацвей ускласці на калёскі параненага. — Гінуць людзі, як мухі. Да фельчара завязу, перавяжа цябе. А вёска наша недалёчка, за балотам, так і завецца — Забалоцце. Немцаў пакуль у нас нямашака, па галоўнай дарозе пруцца. Етыя цябе і пераймялі?

— Гэтыя. Злыя, як чэрці.

— Ета ж кагды цябе ўбачыў, думаў, што памёр, — распавядаў стары. — Ажно чую, што бытта застагнаў, дык я кійком памацаў, акурат нагу параненую зачапіў. Ты ад болю, мабыць, і акрыяў. Не тутэйшы?

— Не, здалёк я... Пешкі ішоў дахаты... Пераймялі...

Стары, упінаючыся, цягнуў калёскі збоч балота, неўзабаве выбіўся на зарослую быльнягом дарогу.

— Ты пацярпі, — гудзеў ён наперадзе, — цераз барок перабярэмся, а тамака і вёска. Ета ж я ў лес па ламачча выперся, на падпал меркаваў назбіраць.

Калёскі падскоквалі на каранях дрэў, лясная дарога сухая, убітая. Кавальчук моршчыўся ад болю, але цярпеў.

— Мая хатка крайняя, — дзед зноў загаварыў, калі дарога пайшла ўніз па адложыстым схіле, і калёскі пакаціліся лягчэй. — Малака пап'еш, а я тым часам Сцяпана паклічу.

Але Кавальчук ужо не чуў, пра што гамоніць стары — перад самай вёскай страціў прытомнасць. Ачуўся ў цемнаватай хатцы. Ён ляжаў на падлозе, перад ім на каленях стаяў дзядок, тармасіў за плячо, соваў кубак з малаком.

— Па-первасці папі, — дзед хваляваўся, бо паранены збляднеў, аслабела дыхаў. — Уродзе быў ажыў, а цяперака во млее. Пабягу па Сцяпана.

Кавальчук ужо не чуў, як прыбег фельчар, толькі застагнаў, адплюшчыў вочы, калі той адрываў закарэлую ад крыві павязку на шыі. Быццам пякельны агонь зыркнуў перад вачамі, пранізаў навылёт цела.

— Зблізку стралялі, порах на шчацэ, — ціха сказаў фельчар.

— Дабівалі, — прастагнаў Кавальчук. — Ва ўпор ударыў, гад...

— Пацярпі трохі, — фельчар спрытна апрацоўваў рану. — Ды ў цябе і зубы пакрышыла. Але косць цэлая, у сарочцы радзіўся. Зрасцецца, толькі шрам будзе.

Заматаўшы бінтам рану, фельчар здзёр з параненага штаны, прыцмокнуў языком:

— Дзялы, браток. Добра, што зразу перавязаў. Навылёт прайшла, калі костка цэлая, праз тыдзень-другі танцаваць будзеш.

Ён прамыў рану, забінтаваў, стомлена прысеў на ўслон, сказаў гаспадыні:

— Скіпяці малака, з мёдам трэба даць яму. Дзве раны, але чалавек жывучы, выграбецца. Вайсковец, відно. Учора на шляху стралялі, ноч ляжаў без памяці. Да вечара хай тут паляжыць, а поначы да мяне перавязём. Ты, Яўхім, нікому не кажы, што з лесу чалавека прывёз. Усялякія людзі ёсць. Чалавека трэба ратаваць, хто б ён ні быў.

Калі добра ўцямнела, фельчар з Яўхімам перавезлі параненага, паклалі ў хлеўчуку за дрывамі. Кавальчук быў у непрытомнасці. Ён не чуў, як Сцяпан (так звалі фельчара), сядзеў каля яго ўсю ноч, мацаў пульс, хітаў галавой. Пад раніцу Кавальчук ачуўся, памкнуўся выпрастаць нагу, і востры боль джалам прастроміў цела, бы загналі распаленыя цвікі. Апошнім высіленнем імкнуўся адцягнуць той момант, калі ўпадзе ў чорную бездань, хапаў ротам свежае паветра, але зрабіць нічога не мог: гарачая хваля накрыла яго, панесла ў цёмную прорву. Апрытомнеў, калі было светла. Каля яго сядзеў пажылы, у картовым пінжаку чалавек.

— Дзе я? — прашаптаў ледзь чутна.

— Вось і добра, — фельчар апусціўся на сена, паправіў посцілку, на якой ляжаў Кавальчук. — Два дні без памяці быў. Ляжы пакуль, цярпі. Сёння перавязку змяню, мо і абыдзецца. Цяпер малачка папі. Аслабеў дужа, крыві шмат страціў. А завуць цябе як?

— Мікалай, — прашаптаў Кавальчук. — Васільевіч.

— А мяне Сцяпанам клічуць, а па бацьку Савельевічам. Не пытаю, хто ты і адкуль, бачу сам, што чалавек наш. Калі без памяці быў, крычаў пра нейкія кулямёты, школу ўспамінаў. Мо вайсковец?

— Не, не быў у войску, — Кавальчук папярхнуўся, бо не мог сказаць усю праўду. — Дзед мяне сюды прывёз, а больш нічога не помню... А немцы? Не былі тут?

— Пруць на ўсход, як ачмурэлыя. Столькі танкаў, самалётаў. Я цябе хацеў у хаце пакласці, ды апасна. У Міхалёўцы, чатыры кіламетры ад нас, учора трох пераймялі — з акружэння выбіраліся. Немцы на матацыклах нахапіліся, пасярод вуліцы і паклалі ў пыл з аўтаматаў. Хаты абшукалі, яшчэ аднаго знайшлі параненага, на двор выцягнулі і забілі. Так што ляжы пакуль, тут мо не будуць шукаць. Не тутэйшы, відно?

— Настаўнік я... у школе працаваў, — ледзь чутна прашаптаў Кавальчук. — Сволачы... гады, — прахрыпеў з пакутлівай, бяссільнай злосцю. Намагаўся яшчэ нешта патлумачыць, але бы не хапіла паветра, задыхнуўся ў кашлі.

— Малака папі, — Сцяпан паднёс кубак, але паранены вялавата ўзмахнуў рукой, заплюшчыў вочы. — Ну, ляжы, — фельчар устаў, атрос са штаноў пацяруху. — Калі немцы, не бойся, тут закутак непрыметны, не знойдуць. Калі баліць, трывай. Паправішся, дадому шчэ на сваіх дваіх датэпаеш.

Пакутліва, доўга цягнулася душная, балючая ноч. На шчасце, шчака не так балела, як нага, быццам пухліна трохі спала. Магло быць горш. Не мог забыць, як з гарачкі кінуўся ў кювет і ўбачыў перад вачамі рулю вінтоўкі, шалёныя, белыя вочы канваіра.

Цяжка, гнятліва цягнуліся дні і ночы. Вакенца ў глухой сцяне хлеўчука то святлела, то цямнела, і тады паранены ведаў, што мінуў яшчэ адзін пакутлівы дзень.

Аднойчы раніцай Кавальчук пачуў нізкі, басавіты гул, які набліжаўся ад лесу, стаіўся ў сваім закутку, нават дыхаць перастаў, услухоўваўся, што дзеецца на вуліцы. Гул абарваўся недзе побач, за высокім плотам, матор роўна тахкаў на малых абаротах. Пачулася нямецкае гергетанне, гучны смех, воклічы на чужой мове.

Забрахаў сабака, ажно ірваўся на ланцугу, не пускаў, відно, чужакоў у двор, які ахоўваў; рэзка бабахнуў стрэл, бы хто з усяго размаху ўдарыў абухом па бляшаным лісце, і дварняк завіскацеў на ўсю вёсачку. Глухая аўтаматная чарга, пругкая, паспешлівая — і ўсё сціхла, толькі рогат і вясёлае гергетанне немцаў.

Кавальчук з намаганнем падпоўз да сцяны, чапляючыся рукамі за шурпатыя бёрны, з высіленнем узняўся; стоячы на здаровай назе, крадком, збоку зазірнуў у цьмянае шкло вакенца. За штыкетнікам на вуліцы стаяў крыты брызентам грузавік, каля яго тоўпіліся салдаты ў незнаёмых зялёных мундзірах, у пілотках, з кароткімі чорнымі аўтаматамі. Немцы знешне не выказвалі ніякай варожасці да купкі вяскоўцаў, што стаялі на тым баку вуліцы, здавалася, нават не прыкмячалі іх. Адзін з немцаў спрытна ўзабраўся на плот, сарваў з яблыні дробнае яблычка, куснуў, зморшчыўся, з усяе сілы шпурлянуў яго ў сцяну хлява. Кавальчук на імгненне сустрэўся вачамі з гэтым маладым, бесклапатным немчыкам, у страху споўз уніз, накрыўся з галавой коўдрай. Яму было да болю сорамна, што ён, малады, абучаны вайсковай справе мужчына, туляецца бяспомачны ў брудным хлеўчуку, а гэтыя сытыя, нахабныя немчыкі ходзяць па чужой зямлі, як па сваёй. Слёзы задушылі глотку, ад крыўды і бездапаможнасці перацяло дыханне.

Раптам пранізліва завішчаў парсюк, бы яго рэзалі на кавалкі, закудахталі куры, пачуўся жаночы лямант, грубыя вокрыкі на чужой мове. Неўзабаве ляснуў борт машыны, узроў матор, ажно дробна задрыжалі хліпкія сцены хлеўчука. Грузавік пасунуўся па вуліцы.

Зашамацела салома, у закутак праціснуўся Сцяпан, пачаў чамусьці шэптам:

— Чуў, немцы прыязджалі. Ракету пусцілі і курэй пачалі хапаць па ўсіх дварах. У Яўменіхі кабанчыка хапнулі, у кузаў запхнулі. Людзей пакуль не чапнулі.

— Яшчэ зачэпяць, — Кавальчук вызірнуў з-пад коўдры. — Гэта першыя, франтавыя немцы, нахапалі, каб пажраць. А потым прыйдуць другія, не курам, а людзям пачнуць адкручваць галовы.

— Я скажу табе, струхнуў трохі, калі ўгледзеў машыну на вуліцы. Думаў, што па хатах, хлявох пачнуць шнырацць. Баб не саромеюцца, плот увесь аблілі... Трапілі людцы ў дзярмо, а як выграбсціся?

Кавальчук сеў, паморшчыўся ад болю, нягучна сказаў з перакананасцю ў голасе:

— Прашляпіў той, што на самым версе сядзіць, паверыў Гітлеру. А цяпер кроў вялікая будзе.

Сцяпан са спалохам азірнуўся па баках, каб, барані Божа, хто не падслухаў, потым толькі ўцяміў, што ў хлеўчуку яны адны, апусціўся на сена.

— Не бойся, Савельевіч, — Кавальчук праз сілу, нацяята ўсміхнуўся. — Усе мы пужаныя, па тонкім лёдзе хадзілі. Абрыдла ўжо ўсяго баяцца. Я такое перажыў, што душа высахла да дна. Сволачы... прашляпілі... А мог бы ваяваць. І колькі такіх...

Нейкая здагадка мільганула ў вачах фельчара, і Кавальчук здагадаўся, што сказаў у запале лішняе, хоць намёкам, але выказаў тое, пра што нельга пакуль званіць: усё ж чалавек чужы.

— Мо яны тутака ненадоўга? — з надзеяй спытаў Сцяпан. — Ты, Мікалай, свет пабачыў, болей ведаеш.

— Гэтага не ведаю, Савельевіч, але за адзін год справа не скончыцца. Калі ў кювеце ляжаў, бачыў іх танкі, машыны. З трохлінейкай супраць іх не паваюеш. Мо дзе далей збярэцца сіла, а тут паніка, бягуць нашы.

Фельчар задумліва, з унураным тварам слухаў Кавальчука няспешна, з болем у голасе пачаў расказваць пра сваё, збалелае:

— Двое сыноў у мяне. Старэйшы, Павел, кадравы камандзір, у Прыбалтыцы служыў, а малодшы палутарку вадзіў у райцэнтры. На другі дзень вайны паклікалі яго. Дзе цяпер, невядома: мо дзе па лясах блукаюць, а мо і няма на свеце... Як дзе прачую, што ідуць акружэнцы, распытваю пра сваіх.

— Хапіла ўсім, хто трапіў у гэтае пекла, — цяжка ўздыхнуў Кавальчук. — Падымуся, то мо і раскажу. Але навошта табе, Савельевіч, гэта ведаць, свайго гора хапае пад завязку. Калі-небудзь адкрыецца, людзі жахнуцца, што такое магло быць на зямлі... Песні вясёлыя пелі, славілі таго, што ў Крамлі, а ў гэты час людзей давілі, як мух.

— Ты пра што, браток? — Сцяпан пабляднеў, адхіснуўся назад, да сцяны, узняў рукі, нібы баронячыся, бяспомачна-разгублена глядзеў на Кавальчука. — Цяперака ён патрэбны. Як без яго быць?

Кавальчук квола, балюча, праз сілу ўсміхнуўся, сказаў, каб заспакоіць чалавека:

— Нас жа ніхто не чуе. Ды я нічога не сказаў новага, усе ведаюць пра рэпрэсіі. Вось думаю: а калі вернуцца нашы, то што будзе? Мо што зменіцца? Вайна пакажа, хто на што здатны...

"Ды ён, Сцяпан, пэўна і не ведае, што адбывалася ў краіне, — запознена, з прыкрасцю, што гэтак неасцярожна выказаўся, падумаў Кавальчук. — Ды пэўна чуў, але не перажыў таго, што я, не пабыў там. Улады яшчэ доўга не скажуць праўду народу. Вусач усё схавае, скрые. Ды і такія, як Літвінюк, касцьмі лягуць, каб не адкрылася праўда, таму што павязаны адной вяроўчынай. А мо і яшчэ паўтараць, бо бандзюгі ніколі не спыняюцца на адным злачынстве".

— Ты нікому не гавары пра такое, Мікалай, — ціха папярэдзіў Сцяпан. — Пакуль не гавары. Перажыў, бачу, хай будзе з табой усё. Не ўведаеш, куды свет павернецца пасля вайны. А жыць трэба. Катарага хлебам не кармі, прэцца данесці на суседа, закапаць у брудзе.

Балюча, трывожна глядзеў на яго Кавальчук. "Пэўна, здагадаўся, адкуль выйшаў я. А мо так і трэба, хай ведае, як улада з людзьмі абыходзілася".

— У нас двох узялі ў трыццаць сёмым, — раптам шэптам паведаміў фельчар. — Адзін аднаасобнік, у калгас не схацеў уступаць, прыпомнілі. А другога за нішто заграблі, смешна сказаць. Брыгадзірам быў у нас, у канторцы сваёй партрэт Сталіна перавесіў на другую сцяну. А тут навальніца нахапілася, дах пацёк, ну, трохі і пашкодзіла партрэт. Нехта данёс, ну, і патарабанілі чалавека, згінуў недзе.

— Значыць, трохі ведаеш? — Кавальчук ужо з цікавасцю глядзеў на фельчара. — Здагадаўся, адкуль я? Свае, Савельевіч, ледзь не загробілі. Для іх я ўжо мёртвы, выкраслены з усіх спісаў. Выходзіць, немцы выратавалі? Вось і жыві цяпер. Быццам і няма чалавека...

— А як жа цяпер? — ціха, з жалем папытаў Сцяпан. — Што рабіць?

— Пытаеш, як жыць буду? Ведаю адно: да немцаў не пайду. А свае ці прымуць? Ці паверяць? Я не ведаю. А ўзялі мяне перад самай вайной. Сказаў аднаму падлюгу, што нам трэба да вайны з Гітлерам рыхтавацца, што сілу ён вялікую сабраў. Павесілі варожую прапаганду. А цяпер гэтыя немчыкі за два тыдні ўсю Беларусь прайшлі. Дык што, я няпраўду сказаў?

— Ты праўду кажаш, паверыў я табе, Мікалай, — Сцяпан уздыхнуў, узняўся з сена. — Хоць і пакрыўджаны ты, а веру, што да немцаў не пойдзеш служыць. А крыўды не трымай на Савецкую ўладу. Мяркую я, што шмат нягоднікаў да яе прымазалася. А ў нас цяперака вораг адзін — немец, фашыст. Разаб'ём яго, прагонім адсюль, разбяромся, хто чаго варты. Цяперака разам трэба бяду агараць. За нагу тваю баюся, тут хірурга трэба ды ў бальніцы лячыць. Увечары ў хату цябе перанясу, тутака аднаму цяжка ляжаць. У райцэнтры знаёмая аптэкарка жыве, заўтра і збегаю. Мо лекаў якіх разжывуся.

Яшчэ месяц ляжаў Кавальчук у хаце фельчара. Тыдні два стаяла высокая тэмпература, нага распухла, ссінела, але неяк абышлося. За час хваробы Кавальчук вельмі саслабеў, не мог нават без помачы два крокі ступіць. Але ўсё кашмарнае, жахлівае засталося ззаду, цяпер трэба было думаць, як дапясці дадому.

Аднойчы Кавальчук папрасіў у Сцяпана брытву, сяк-так пагаліўся і не пазнаў самога сябе: з люстэрка глядзеў незнаёмы, худы чалавек з запалымі вачамі; жахлівы, няроўны шрам збрыдзіў левую шчаку і шыю.

— Каго куля адзін раз памеціла, у другі раз не возьме, — заспакоіў яго Сцяпан. — Былі б косці, мяса нарасце. А ты мужык моцны, такія цяпер трэба. Нагу захаваў і скажы дзякуй Богу. І да жонкі датэпаеш, і паваюеш яшчэ.

Толькі ў пачатку верасня Кавальчук выправіўся ў дарогу. Сцяпан даў яму старую кухайку, паклаў у торбачку куліду хлеба, кавалак жоўтага прасоленага сала, цераз лес правёў да шляху, паказаў дарогу.

— За етым шляхам суцэльныя лясы. Дабрыдзеш да ракі, ідзі па цячэнні ўніз, акурат патрапіш да сваіх мясцін. А тамака ўжо распытаеш. Дарогі абмінай, без дакументаў не выбавішся, калі немцы схопяць.

На развітанне Кавальчук моцна абняў Сцяпана, не вытрымаў, скупая слязіна пакацілася па шчацэ, а калі гаварыў, голас задрыжаў:

— Дзякуй табе, Савельевіч. Колькі жыць буду, не забуду цябе. А жыць будзем, усё перацерпім... Будзем.

ЛіМ
ЧАСАПІС



Выставы

# БОЛЬ ПАЛЕССЯ, БОЛЬ БЕЛАРУСІ

На Палессі, у вёсцы Клівы Хойніцкага раёна, нарадзіўся вядомы беларускі мастак Уладзімір Цітавіч Гардзеенка. Гэты край, дзе ўрадлівыя палі, велічныя дубровы і бары, здзіўляючая па прыгажосці Прыпяць, зычлівыя, душэўныя і працавітыя людзі, стаў жыватворнай крыніцай яго творчасці. Уладзімір Цітавіч ніколі не забываў родныя і дарагія для сябе мясціны, сваіх землякоў: і калі вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, і Беларускім дзяржаўным тэатрально-мастацкім інстытуце, і калі працаваў дацэнтам і дэканам гэтай ВНУ, і калі займаў высокія адказныя пасады ў творчых калектывах і арганізацыях, у тым ліку ў Саюзе мастакоў рэспублікі. Бо палеская зямля-матуля клікала на свае прасторы яго сэрца, душу. І ён прыязджаў сюды, каб зноў і зноў ёю налюбавацца, выказаць сыноўнюю ёй удзячнасць за тое, што яна яго нарадзіла, падаравала яму талент і дала крылы для творчага ўзлёту. Уладзімір Цітавіч стварыў аптымістычныя і ўзнёслыя работы аб сваёй радзіме.

Але дзесяць гадоў назад на гэтую прыгожую зямлю прынёс ядзерную атруту Чарнобыль, і творчасць У. Гардзеенкі набыла новую афарбоўку, суровыя ноты, загучала магутнымі акордамі арганнай музыкі трагедыі. Уладзімір Цітавіч адразу адгукнуўся на гора свайго народа — паехаў у адселеную зону, каб словам мастацтва перадаць нялёгкі лёс Палесся, яго боль, трагедыю многіх тысяч людзей. Аб гэтым — дзесяткі карцін Уладзіміра Цітавіча, мастака-грамадзяніна. Дваццаць пяць з іх ён прадставіў на свае персанальныя выставы ў Гомелі і Хойніках, якія выклікалі вялікую цікавасць у грамадскасці, прыкавалі яшчэ раз нашу ўвагу да чарнобыльскай катастрофы і яе наступстваў. Як адзначыў на адкрыцці сваёй экспазіцыі сам аўтар, ён дзесяткі разоў пабываў у так званай зоне жорсткага кантролю, наведаў вёскі, якія пакінулі не па сваёй волі іх жыхары. Але асобныя канкрэтныя ўражанні аб убачаным мастак перадаў у творах, у якіх філасофскае абагульненне падзей і складанай сітуацыі.

Красавік 1986 года Уладзімірам Цітавічам адлюстраваны ў карціне "Зарыва над Прыпяццю", дзе хмары радыеактыўнасці чорным крылом накрываюць Палессе; трывожны матыў у рабоце "У пойме Прыпяці" — вялікая бяда прыйшла ў маляўнічы край. Моцнае ўражанне пакідае карціна "Пеўні тут больш не спяваюць". Там, дзе раней было ўтульнае жытло і ў радасці жыў чалавек, засталіся нікому не патрэбныя рэчы. Глыбока сімвалічны твор "Узбочына": на фоне палявых кветак, але ўжо атручаных, уладарыць толькі заржавелы стары дарожны ўказальнік з назвай пахаванай вёскі.

Чалавек заўсёды імкнуўся жыць у гарманічным адзінстве з прыродай. І такую гармонію знішчыў Чарнобыль, аб чым карціны мастака "Чырвоныя дрэвы", "Маленне ночы" і іншыя.

Што ні твор Уладзіміра Цітавіча, то праўда аб катастрофе на АЭС: "Прысвячэнне", "Трывожная песня", "Музыка мёртвых струн"...

Выставы У. Гардзеенкі на Гомельшчыне, якая больш за ўсіх пацярпела ад ядзернага выбуху, — гэта і значная падзея, і эпічны расказ у фарбах дынамічнай жывапіснай манеры аб самай страшнай катастрофе на планеце Зямля дваццатага стагоддзя, заклік да людзей: "Будзьце пільнымі, такое не павінна больш паўтарыцца!"

Пазнаёміўшыся з экспазіцыяй выстаў, яшчэ раз пераконваешся ў тым, што нашы творцы, мастакі — разам са сваім народам, яго бедамі. І надзеямі. А такая надзея, аптымізм, вера ў лепшую будучыню Уладзімірам Цітавічам выражана ў карцінах "Край майго дзяцінства" і "Мамін дыван".





*На здымках: карціны мастака "Чырвоныя дрэвы" і "Маленне ночы".*

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ,**
**мастацтвазнаўца**

# "Я ЖЫВУ — ШМАТ"

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

**— Валеры, які сюрпрыз можна падрыхтаваць да сямідзесяцігоддзя акадэмічнага тэатра — так, каб пра яго не апавясцілі сама менш у гарадскіх газетах?**

— Ну... Расчараваць мяне хочаш? Будзе сюрпрыз. Фестываль авангарда. Які нідзе яшчэ ніхто не бачыў.

**— Раней сямідзесяцігоддзі адзначалі груваасткімі мастацкімі палотнамі. Прасціраддзямі. Кшталту пераніцаванага "Несцеркі". А ты авангарднае свінчо пад дзяржаўную падзею падкладаеш?**

— Гэта — сакрэт! Бо рэпэціруем Гогаля, "Дзядзьку Ваню", "Баль у часе чумы", здалі "Пунсовыя ветразі" паводле Грына. Што яшчэ можна паказаць на свята?

**— Ты не першы раз сам, напісаўшы п'есу, ставіш яе. Сам выходзіш у ролях. Да якой ступені ты бываеш шчыры ў размове з залаю?**

— Як з каханым чалавекам. Як з адзіным чалавекам, якому ўсё трэба аддаць.

**— Тэатр — гэта любоў паводле Маслюка?**

— Жыццё — гэта любоў. Тым, якім я быў у свой малады час у Віцебску, я сябе проста не памятаю. Як не памятаю сябе і ў Магілёве. Спяшаўся, паспяваў, мітусіўся, засяроджваўся? Не памятаю. А цяпер разумею, што раблю. Што мне ў гэтым хлусіць няможна.

**— Валеры, за нейкія апошнія годдва ці не ўсе самыя адметныя тэатральныя падзеі порстка перамясціліся ў Віцебск. У тэатры неяк пасвятлела, — так, што спектаклі вашы ўспрымаюцца вастрэй. Фестывалі, творчыя сустрэчы, госці, выданні часопісаў, доследы, тэатральны цэнтр. Гэта вымагае ўвагі, выклікае цікавасць, да якой падмешваецца крыху мінскага (сталічнага) раздражнення.**

— Разумею. Нядаўна здалі (сабе) ды паказалі (гледачам) "Жураўлінае пяро", японскую казку. Дваццаць старонак тэксту. Усяго. Рабілі свядома прыгожы спектакль. Вельмі тэатральны — у лепшым сэнсе слова. Дзеці глядзяць адкрыўшы рот. Ёсць ад чаго адкрываць рот і фінансістам: на гэтую казку пайшло ўга колькі сродкаў! Куды больш, чым на маю ўласную папярэднюю пастаноўку. Рэжысёр казкі, малады Антон Грышкевіч, даводзіў яе да сцэны ў пакутах ды мітрэнгах, але — здужаў. Характар — для тэатра...

**— Для тэатра імя Якуба Коласа прыдаюцца характары Грышкевіча, Краснабаева, Караткевіча, Лізянгевіча, Катавіцкага (апошні хутка будзе ставіць)... Цяжка мастацкаму кіраўніку тэатра дзяліцца пляцоўкаю?**

— Я магу рэпэціраваць у сваім кабінеце — мой жа. Яны мне ўсе... рупяць. А паздрослівасць гэтакая творчая — ёсць. Ды я яе і не хаваю. Яны ставяць і тым шчаслівыя. Калі чалавек шчаслівы, ён таленавіты. І хоча рабіць. У Віцебску... доб-рае свята. Рэдка баліць сэрца. У Мінску без валідола на вуліцу не выходзіў. Напэўна, прыспеў час гэтага горада. Ты пералічвала рэжысёрскія прозвішчы, між тым Міша Краснабаеў, акцёр, ужо другі спектакль робіць. А я ў яго там працую. Я артыст. Праўда, сам на ролю набіўся. Ды ніхто ўжо не здзіўляецца, чаму дырэктар ролю просіць. Хоча, значыць. Хоча, хоць і... баіцца. Усё — як упершыню. Але што засмучае... У "Рыбіне..." (спектаклі В. Маслюка "Вялікая і сумная рыбіна, якая чакае", дзе ён выступае і драматургам, і рэжысёрам, і акцёрам. — **Ж. Л.**) усе чамусьці выглядаюць маю біяграфію. Пра што, маўляў, Маслюк, пра якія выпадкі ды праявы?.. А я — пра зламаныя хрыбты майго пакалення. Вядома, наладаваны спектакль асабісты, але — не пра мяне ён. Самая вялікая радасць, калі ў фінале (у фінале Доктар (В. Маслюк) выпускае з вар'ятні Хлопца (А. Віктараў). — **Ж. Л.**) кажу партнёру: "Апранайся!" Такі... прыступ шчасця, што магу, насуперак усяму, рабіць добрае! Здатны парушыць умоўнасці, забабоны, намовы, — я ж не ідэальны чалавек. Часам страшны, часам слабы. Чалавек жа. Але, па вялікім рахунку, шчаслівы нешта зрабіць для іншага чалавека.

**— Ты бачыш у сваім тэатры шчаслівых людзей?**

— Бачу. Праўда, раблю для іх менш, чым мог бы. Надта шмат энергіі выдаткоўваю на самога сябе. Здаецца, мяне тут любяць. Калі тэатр цяпер вытрымае заданную хуткасці ды спосаб існавання, а тэатр, адчуваю, цяпер ліхаманіць, трасе, — выйдзем да новага, добрага якаснага ўзроўню. Я, на жаль, не заўжды шмат працую. Я жыву — шмат, а працую часам і недастаткова. Я ўжо тры гады... не сплю. Амаль. Абвостранасці, у якой існую цяпер, раней страшэнна баяўся, унікаў. Сям'я, дзеці, а як памру, дык хто ім дапаможа?.. Дзеці падгадаваліся. Я не свабодны ад іх, любых, дарагіх людзей. Я вольны сам па сабе. Іншы этап у жыцці. Хоць часам... лепш бы заснуць. А то й засну, ды страшны сон сасніў: што напісаў новую п'есу. Зместу не памятаю... Наяве — дзве п'есы ў стале ляжаць, патрэбы ставіць няма. Пішу вершы. Шмат. Жыву... Шмат жыву. Траплю ў свой час.

**З Валерыем МАСЛЮКОМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**
*Фота Аляксея МАЦЮША*

## НАДЗЕЯ НАШАЙ МУЗЫКІ

**Не адпачываюць на дасягнутым выкладчыкі і вучні Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Хаця чытачоў "ЛіМа" і не здзівіш поспехамі ліцэістаў, але дасягненні пачатку гэтага года ўражваюць.**

**Вядома, у міжнародных конкурсах удзельнічаюць юныя музыкі з 15, 20 і больш краін, атрымаць там нават дыплом — поспех, не кажучы ўжо пра 3-е ці 2-е месца. Дык вось, ужо сёлета нашы ліцэісты прывезлі з разнастайных конкурсаў больш чым 20 лаўрэацкіх узнагарод.**

**Напрыклад, у Маскве на "Юнацкіх асамблеях" Беларусь прадстаўляў Гарык Анішчанка, які заняў там першае месца. Яго выкладчык заслужаны артыст рэспублікі Уладзімір Перлін расказаў:**

**— Конкурс праходзіў пад патранажам мэра Масквы Юрыя Лужкова, які вітаў удзельнікаў асамблеі, а гэта дзеці ад 10 да 13 гадоў, словамі: "Вашу творчую індывідуальнасць будуць ацэньваць з пазіцыі высокага мастацтва буйныя музыканты, якія ўвайшлі ў склад журы..." Журы было і сапраўды сур'ёзнае, амаль як на конкурсе імя Чайкоўскага: у піяністаў — Аляксей Наседкін, у скрыпачоў — Эдуард Грач, у віяланчэлістаў — Наталля Шахаўская. Прыемна, што госцем імпрэзы быў колішні мой вучань Коля Гімалетдзінаў, які граў на адкрыцці конкурсу. Трэці тур дзеці гралі на сцэне Вялікай залы Маскоўскай кансерваторыі ў суправаджэнні Маскоўскага сімфанічнага аркестра. Поспех наш падзяліла і канцэртмайстар Любоў Пятрова.**

**Вядомы педагог ліцэя Арыядна Гужалоўская са сваім вучнем Дзянісам Маслюком пабывала на Міжнародным конкурсе піяністаў імя У. Крайнева, які праходзіў у Харкаве, пад патранажам Прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Дзяніс атрымаў другую прэмію, а таксама спецыяльны прыз вядомай французскай піяністкі, члена журы конкурсу Тэрэзы Дзюсо.**

**Калі заходзіш у ліцэй, у вестыбюлі бачыш дошку, дзе на працягу навучальнага года вісяць віншаванні вучням, адзначаным узнагародамі на міжнародных і нацыянальных конкурсах, фестывалях, асамблеях, іншых музычных спаборніцтвах. Сёлета ўжо ў канцы сакавіка на гэтай дошцы не хапала месца, каб павіншаваць усіх лаўрэатаў! А неўзабаве прыйшло новае паведамленне. На міжнародным конкурсе драўляных духавых інструментаў лаўрэатамі сталі Дзмітрый Маргулец (1 месца), выхаванец прафесара Б. Нічкова, Яўген Аўсяннікаў (1 месца), выхаванец прафесара У. Скарахадава, Раман Паляшчук (3 месца), выхаванец І. Брычыкава. На конкурсе імя І. Жыновіча Супер-прыз і 1 месца атрымалі цымбалістка Аксана Хахол, вучаніца прафесара Я. Гладкова, Надзея Дзядзічкіна, клас домры прафесара Г. Асмалоўскай, баяніст Максім Ракач, вучань дацэнта К. Булы. А на конкурсе маладых піяністаў імя Вайнюнаса ў Літве 2-е месца заняў Віталь Стахіевіч, вучань дацэнта З. Качарскай.**

**Пэўна, пакуль гэтыя нататкі выпраўляюцца да чытача, спіс нашых юных лаўрэатаў падоўжыцца...**

**Аляксандр МІЛЬТО**

## ХОЦЬ БУДЗЬ ТЫ АТЭІСТАМ

**паважных гадоў, а ўбачыш кнігу "Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы", выпушчаную ў Гомелі Беларускім агенцтвам навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі, не пашкадуй грошай, набудзь яе. Гэты даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі, аўтарам якога з'яўляецца У. Коваль, — яшчэ адна магчымасць далучыцца да невычэрпнай народнай фантазіі, адчуць, наколькі таленавітымі былі нашы продкі, як умелі яны даваць свае вытлумачэнні розным з'явам. Канечне, можна з тымі ці іншымі высновамі і не пагаджацца, лічыць усё гэта перажыткам, ды, урэшце, варта ўсё ж пагадзіцца, што не так гэта проста, як падаецца на першы погляд.**

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ ВУЧОНАГА

**На вечарыне "Танга, танга, вальс..." у Рэспубліканскім Палацы ветэранаў адбылося першае выкананне першага музычнага твора "Вясенні вальс" прафесара, доктара педагагічных навук Акадэміі фізічнай культуры і спорту Беларусі Ларысы Глазырынай. Яна і праспявала свой твор, а таксама на працягу паўтары гадзіны "выконвала іншыя песні. Для многіх упершыню раскрыўся яшчэ адзін бок таленту гэтага цікавага чалавека.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

# ЯК СОНЦА ЎСХОД...

## СПЯВАЕ АКАДЭМІЧНАЯ ХАРАВАЯ КАПЭЛА

Сярод многіх прыемных сюрпрызаў, якімі ўсё часцей радуе слухачоў сталічная філармонія, выступленне Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай вартае асаблівай увагі. Канцэрт пераканаў мяне ў тым, што капэла на сённяшні дзень — універсальны высокапрафесійны спявацкі калектыў, які з вялікім майстэрствам выконвае як творы буйной формы з сімфанічным аркестрам, так і хоры без суправаджэння.

Была выканана сур'ёзная праграма acapella, якая вымагае ад дырыжора і выканаўцаў не толькі віртуознага тэхнічнага майстэрства, але і глыбокага пранікнення ў сутнасць музычнай думкі, філасофскіх абагульненняў, тонкага адчування стылёвых асаблівасцей кожнага хору. У праграме былі сабраны "патрыярхі" рускай харавой культуры: Д. Бартнянскі, П. Часнакоў, А. Грачанінаў, С. Танееў, гучалі таксама творы аўстрыйскага кампазітара А. Брукнера, беларускія і рускія народныя песні.



Перш за ўсё адзначу тэхнічнае майстэрства выканаўцаў: выдатныя інтанацыя і строй, гнуткасць нюансіроўкі, выразны рытм. Хору падуладныя як магутныя forte, так і найпяшчотнае piano. Разнастайнасць штрыхоў, выдатны харавы ансамбль, добра зладжаны унісоны, яснасць фактуры... Але галоўная вартасць выканання ў тым, што тут не ставяць тэхнічныя задачы як самамэту. Ёсць тонкае адчуванне стылістычных асаблівасцей кожнага твора, які выконваецца ў пэўнай, характэрнай менавіта для дадзенага кампазітара, пеўчай манеры. Калі гэта Бартнянскі, то гэта Бартнянскі, калі гэта Танееў, то гэта Танееў. Багацце тэмбравых фарбаў, змена розных эмацыянальных станаў, багацце вобразных музычных характарыстык, багатае творчае ўяўленне! Станіслаўскі на рэпетыцыі оперы П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін" гаварыў спевакам: "Не бачу, пра што спяваеце". Слухаючы хор "Развалину башни, жилище орла" С. Танеева, я бачыў руіны, цясніну, высокую скалу ля берага мора, я зрокава ўяўляў рыцарскія часы, поўныя драматычных падзей і трывог, я слухаў "вясёлае ржанне і тупат коней"...

Важна адзначыць і тое, што шматлікія выяўленчыя музычныя сродкі пры выкананні маюць не колькаснае, а якаснае значэнне. Кожнае слова, фраза маюць свой падтэкст. Каб думка мая стала яснейшай, прывяду зноў жа словы Станіслаўскага: "Па тым, як мы прагаворым літару "о" ў слове "мора", слухач адчуе — бурнае гэта мора або ціхае, спакойнае". Ды і Глінка неяк заўважыў: "У музыцы, асабліва вакальнай, рэсурсы выразнасці бясконцыя. Адно і тое ж слова можна прамовіць на тысячу ладоў, не змяняючы нават інтанацыі, ноты ў голасе, а змяняючы толькі акцэнт, надаючы вуснам то ўсмешку, то сур'ёзны строгі выраз". Я не быў на рэпетыцыях Л. Яфімавай, але, праслухаўшы канцэрт, пераканаўся ў тым, што выразнасці спявацкага слова надаецца вельмі вялікая ўвага. Як прыклад — выкананне вянка беларускіх народных песень з анталогіі Р. Шырмы: тут, як у "лубочнай карціне", словы зіхацяць разнастайнасцю фарбаў і настрояў.

Шмат цікавых знаходак у працы над нюансіроўкай. Напрыклад, piano ў хоры С. Танеева "Вечар": цёплы, светлы тэмбр пяяння, захапленне чалавека, які назірае за велічнай карцінай прыроды, мяккі, пяшчотны, лёгкі гук. І колькі глыбіні, пранікнення, пакут, мальбы, унутранай засяроджанасці ў выкананні piano у пачатку хору П. Часнакова "Ныне отпущаеши"! У выкананні 1-га і 26-га канцэртаў Д. Бартнянскага ўлагоджвала слых пяшчотнае, мяккае, пранікнёнае пяянне хору. Маліто ўнасць, шчырасць пачуццяў змяняліся драматычнымі "ўзлётамі". Магутныя кульмінацыі (forte) поўніліся ўнутранымі пакутамі, чалавечай мальбой. Forte аб'ёмнае, у ім няма крыклівасці, усё спяваецца на добрым прафесійным вакале.

У спяванні капэлы няма "пустых", нейтральных гукаў, якія нічога не выказваюць. У кожнай фразе выяўляецца музычная думка і яе развіццё. Гэтыя якасці выявіліся ў выкананні "Внуши, Боже, молитву мою" А. Грачанінава, "Ныне отпущаеши" П. Часнакова, трох псальмаў А. Брукнера і інш.

У другім аддзяленні канцэрта ўпершыню на беларускай сцэне выконваліся беларускім харавым калектывам геніяльныя творы С. Танеева — пяць хораў (чатыры першыя — на вершы Я. Палонскага).

"Вечар" — харавая мініяцюра, выдатны прыклад музычнага гукапісу, замалёўка вячэрняга пейзажа з яго пяшчотай, спакоем, поўная замілаванасці і прыгажосці. Вобраз прыроды звязаны з інтымнымі пачуццямі чалавека.

"На магіле" — глыбокае, лірыка-філасофскае разважанне пра чалавечае быццё. Ідзя пастаянных змен, абнаўлення ў прыродзе.

"Посмотри, какая мгла" — узор харавой мініяцюры. Вострыя штрыхі, лёгкі рух, затоены, прыглушаны пеўчы гук, які нагадвае "фантастычныя блікі".

"Развалину башни" — дзівосная веліч прыроды, кантраст паміж цяперашнім і мінулым. Сімфанічны прынцып музычнага развіцця.

У выкананні гэтых хораў і дырыжор, і калектыў праявілі сапраўднае майстэрства, прафесійную творчую сталасць. Як у калейдаскопе, змяняліся розныя сэнсавыя адценні, тэмбравыя фарбы, штрыхі настрою, адлюстроўваючы шчырасць, пранікнёнасць, глыбокае філасофскае разуменне сутнасці музыкі выканаўцамі. Апафеозам стаўся хор "Узыход сонца", поўны аптымізму і велічы: нараджаецца новы дзень — дзень новых спадзяванняў, шчасця, радасці. У музыцы амаль зрокава адбываецца перараджэнне прыроды, пачынаючы ад "молчит сомнительно Восток" да магутнага фіналу (II частка) "И во всей неизмеримости эфирной раздается благовест всемирный". Сам таго не ведаючы (а мо і свядома?), Ф. Цютчаў выказаў тут геніяльную абагульняючую думку. Гэта досыць актуальна і сёння, калі людзі імкнуцца вырвацца, нарэшце, са змроку да святла, да свабоды, да шчасця на зямлі.

Пры канцы праграмы былі абвешчаны народныя песні. Мяне гэта насцярожыла. Бо гэта — рызыка! Праграма павінна будавацца па прынцыпе крашчэндa. Аднак народныя песні былі выказаны настолькі цікава, каларытна, разнастайна і так добра былі прыняты слухачамі, што я падумаў: "Так, разлік быў правільны".

Капэла мае важную якасць "пераўвасаблення" пры выкананні твораў, — ад буйных форм да "найдробных" харавых мініяцюр. Прыклад таго — "Полька" ў апрацоўцы К. Галкоўскага. Гэты хор нагадвае мне нацюрморт, які выяўляе гронку вінаграду, дзе бачна кожная жылка, кожная костачка. Найтонкае выкананне: колькі тут самых розных, ледзь прыкметных гукавых упрыгожванняў, нечаканых "акцэнцікаў", зменаў розных нюансаў! Выкананне прасякнута нейкай пікантнай, гарэзлівай непасрэднасцю.

І пра артыстаў капэлы: добра выконвалі свае сольныя партыі Алег Міхайлаў, Эма Пеніна, а таксама выканаўцы сольных ансамбляў у канцэртах Д. Бартнянскага. Усе салісты арганічна "ўліліся" ў агульнае, адзінае вырашэнне творчай задумы кампазітараў. Мноства добрых слоў вартая Людміла Яфімава, таленавіты, удумлівы, вельмі эрудзіраваны мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор капэлы, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Пад яе кіраўніцтвам шырмаўцы дасягнулі росквіту творчых сіл і здольныя на высокім прафесійным узроўні вырашаць самыя складаныя мастацкія задачы.

**Аляксей КАГАДЗЕЕЎ,**
**народны артыст Беларусі, дацэнт Акадэміі музыкі**

---

Гастролі

# ПАБЫВАЛІ Ў БЕТ ШАНЕ

Оперная трупа ДАВТа Беларусі пабывала на гастролях у Ізраілі. Яны праходзілі ў межах Міжнароднага фестывалю ў Бет Шане, адным з найстаражытнейшых гарадоў, гісторыя якога пачынаецца з пятага тысячагоддзя да нашай эры. Фестываль праводзіцца ўжо шосты раз, яго спектаклі і канцэрты адбываюцца на адкрытым паветры ў велічным амфітэатры часоў панавання Рымскай імперыі. Умяшчальнасць "залы" вар'іруецца: на канцэртах дасягае 3500 месцаў, на вялікіх оперных спектаклях, калі сцэнічная пляцоўка пашыраецца, а аркестр размяшчаецца перад ёю на арэне, — памяншаецца. На трох паказах "Яўгенія Анегіна" нашага ДАВТа пабывала каля 4500 чалавек.

Нашаму тэатру выпаў гонар адкрываць фестываль. Перад пачаткам спектакля прагучалі ўрачыстыя прамовы, цудоўны феерверк асвятліў амфітэатр і усю тэрыторыю раскапанага археолагамі антычнага Акропаля. Прысутнічаў дыпкорпус, што асабліва ўражвае, што Бет Шан — гэта амаль тры гадзіны язды ад сталіцы Ізраіля. Дарэчы, пасол Рэспублікі Беларусь выказаў здзіўленне, што даведаўся пра ўдзел суайчыннікаў у гэтым прэстыжным фэсце толькі ў дзень яго адкрыцця.

Уражваў цудоўны ўзровень арганізацыі, павага да артыстаў і публікі. Прыемна, што аркестр, хор, балет, занятыя ў спектаклі, упершыню за ўсю выязную гісторыю нашага ДАВТа былі прадстаўлены ў такім самым колькасным складзе, як і на стацыянары ў Мінску. (Усяго ездзіла 161 чалавек: мастацкае кіраўніцтва і адміністрацыя, работнікі пастановачнай часткі; салісты, хор, аркестр, балет). Гастролі суправаджаліся распаўсюджваннем і ў самім горадзе, і ўздоўж шашы мноствам вялікіх яркіх афіш. Спектаклі даваліся праз дзень, так што была магчымасць адпачыць і пазнаёміцца з маляўнічай краінай, багатай на гістарычныя помнікі. Была нават экскурсія ў Ерусалім. Жылі ўдзельнікі гастроляў у шыкоўным атэлі з басейнам, на беразе Галілейскага возера ў старажытнай Тверыі.

Спектаклі прайшлі на вельмі высокім узроўні. Публіка горача апладзіравала нават кожнаму харавому нумару, кожнаму выхаду балета. У дзень апошняга спектакля па радыё выступаў адзін з самых аўтарытэтных крытыкаў з падрабязным разборам нашых выступленняў (сярод іншага, ён спецыяльна адзначыў, з якім густам і вынаходлівасцю выкарысталі мінчане ўсе магчымасці сцэны). Мабыць, у гэтым — адна з прычын таго, што ў апошні вечар на "Яўгеніі Анегіне" было асабліва шмат публікі (пачатак спектакля, і так аднесены на больш позні час, усё адкладваўся, бо падыходзілі ўсё новыя і новыя аўтобусы з гледачамі). Прытым, абсалютнай перавагі сярод іх "былых савецкіх" не назіралася, было многа карэнных ізраільцян, для якіх на экран праецыраваўся пераклад тэксту на іўрыт. Ёсць такі красамоўны доказ поспеху гастроляў, як папярэдняя дамоўленасць аб удзеле Беларускай оперы ў наступных фестывалях.

Сярод галоўных "герояў" паездкі трэба назваць дырыжораў В. Собалева і А. Анісімава, галоўнага хормайстра Н. Ламановіч, мастака Л. Ганчарову і рэжысёра С. Цырук, якія, можна сказаць, стварылі новы спектакль, і літаральна ўвесь ансамбль салістаў: Н. Кастэнка (Таццяна), У. Пятрова (Анегін), М. Грыгорчыка і С. Драбышэўскага (Ленскі), Т. Варапай (Вольга), Н. Рудневу (Няня), А. Мельнікава (Грэмін), Н. Галееву (Ларына), Р. Палішчука і Г. Чэпікава (Трыке).

Варта з падзякай адзначыць "рэжым спрыяння", які стварылі для тэатра БЕЛАВІА і пасольства Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь.

**А. С.**

## З 60-ГАДОВЫМ ЮБІЛЕЕМ

павіншавалі паэта Аркадзя Нафрановіча, які жыве ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна, землякі. "Мелодыі роднага краю" — так называўся вялікі вечар, які прайшоў у гарадскім Доме культуры. Гучалі песні і вершы юбіляра, сціплыя словы пра яго гаварылі землякі, а таксама госці — загадчык аддзела Віцебскага аблвыканкама Іосіф Навумчык, а таксама старшыня Полацка-Глыбоцкай філіі абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч.

**Н. К.**

## ПРЫ ЦАРКОЎНАЙ ПАДТРЫМЦЫ



**Дзіцячая школа духоўнага жывапісу, якой кіруе Алена Мікалаеўна Харэцкая, каля года дзейнічае ў Жлобіне пры падтрымцы мясцовай царквы. Юныя жывапісцы арганізоўваюць ужо 17-ю выставу сваіх работ, яна прадоўжыцца да свята Святой Тройцы.**

*На здымку: А. М. Харэцкая з дзецьмі на занятках.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## БУДУЧЫЯ ГАСПАДЫНІ



**У Маларыцкім ПТВ-155 вучацца каля ста дзяўчат з Маларыцкага, Кобрынскага, Брэсцкага раёнаў. Іх будучая прафесія — гаспадыня сядзібы. За тры гады дзяўчаты навучацца весці хатнюю гаспадарку, даглядаць агарод, сад, засвояць абавязкі повара, сакратара-машыністкі, пазнаёмяцца з бухгалтарскім улікам. Так што нежанатаму фермеру дастанецца не жонка, а проста-такі падарунак.**

*На здымку: навучэнцы Маларыцкага ПТВ-155 Людміла Крэнь, Алена Мішук, Галіна Мармалюк у кабінеце рукадзелля.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## "ЗАСТАЮЦЦА ПЕСНЯ І РАДЗІМА"

**— пад такой назвай у Полацку выйшаў зборнік песень Мікалая Пятрэнкі і Навума Гальпяровіча. У кнізе шаснаццаць твораў, якія сталі плёнам садружнасці вядомых на Беларусі кампазітара і паэта, аб'яднаных любоўю да Радзімы, да роднага горада і яго людзей. Некаторыя з іх ужо выконваюцца, а астатнім хочацца пажадаць шчаслівага шляху да слухача.**

**Н. К.**

Паэзія

Пятрусь МАКАЛЬ



# УСЁ, ЧЫМ ДАРАЖЫЎ, ЗБЯРОГ...

## ДЗЕНЬ ДАРАВАННЯ

Не тоячы хвалявання,
Якое ратунак прынесла,
Святкуем мы дзень даравання —
Нядзелю душы ўваскрэслай.
Мы над сабой адмыслова
Самі сягоння царуем.
На вуснах адно толькі слова:
Даруем,
Даруем,
Даруем.
Даруем бурчліваму дзеду,
Гаваруну суседу,
Даруем сарокам-цёткам,
Што служаць нядрэмна плёткам.
Даруем лісліўцу падлізу,
Што ўверх пазірае знізу
І цмокаць гатоў без спачыну
Таго, хто вышэй па чыну...
Даруем мы імем лагоды
У шчырым сваім узрушэнні
І тым, што нябачна заўсёды
Абчысціць чужыя кішэні...
А што, калі дзеля прагрэсу
Пакінуўшы сховішча лесу,
Воўк у авечай скуры
У нас каля вуха ўзвые:
— За тое, што грыз вашы куры,
Даруйце вы мне, жывыя?..
Таксама і мы з табою,
Любая, з ціхай журбою
Пражытае моўчкі ўспомнім.
Пасвецім пранізлівым промнем
У цёмнай кладоўцы былога:
Грахоў там ці мала, ці многа?
Позіркі потым скіруем
Да неба, як боскай былі,
Адно аднаму даруем
Злачынствы, якіх не рабілі.

●

Балюйце, гандляры Айчынаю,
Дзяліце ўпотай барышы.
І з прагавітасцю ваўчынаю
Абнюхвайце свае грашы.
Грашы — сярэбранікі Юдавы.
Ах, колькі іх? Мізэрны ўлоў.
Страшней намнога,
як прыблуды, вы,
Прыслужнікі чужых галоў.
Салодка рукі паціраеце,
Адчуўшы звабную брую,
Заўзята з глобуса сціраеце
Краіну крэўную сваю...
Што вам былых
стагоддзяў складчына,
Набытак продкаў векавы,
Крывёй аплачаная спадчына,
Якую прадаеце вы!
Мы ведаем, куды вы цэліце,
Пакуль цярпліва мы маўчым.
Ад чорнай здрады не адбеліце
Ужо сябе нічым, нічым.
Каго паверыць вы прымусіце
У повязь крывадушных слоў,
Калі свайму народу хлусіце,
Прыслужнікі чужых галоў?
Заручаныя з лёсам патавым,
Не ўдасца ў прадчуванні страт
Схавацца за спіною брата вам,
Хай нават ён старэйшы брат.

Яшчэ вы сёння штосьці важыце,
У вас саноўныя правы.
Ды ахнеце, калі заўважыце,
Што рулявы —
Без галавы...
Зляціце ў бездань з траекторыі,
Якая ўверх узнесла вас:
Пакліча Божы суд гісторыі
Трымаць адказ,
Трымаць адказ!

●

Усё бліжэй бабахаюць снарады,
Каб тых, што поруч з намі,
забіраць.
І з кожным днём, чаму ніхто не рады,
Радзее нашых аднагодкаў раць.

Маўчала празарлівая прароцтва
Пра надыход пары журботных дзей,
Што ў спадчыну перадае сіроцтва
Пакінутых і рэчаў, і людзей.

У дзень наступны больш
не мае веры
Самотны промень вечнага пяра,
Якое трызніць дотыкам паперы,
Ратоўным словам праўды і дабра.

Ужо не трапіць залатая рыбка
У чарадзейны невад весляра,
Не запяе і не заплача скрыпка
Без дотыку свайго гаспадара.

Ад старасці, якая скроні снежыць,
Я не знаходжу, як сябе лячыць.
Свае гады, што мне яшчэ належаць,
Ужо зязюлю не прашу лічыць.

І трэба прымірыцца
з лёсам стратным.
Імгненне! Што на свеце даражэй,
Калі жыццё прасцёрта полем ратным,
Дзе грукаюць снарады ўсё бліжэй?

Дык не здавайся ж у палон журботы,
Шчыруючы, закасвай рукавы,
Як сын яе вялікасці Работы,
Што ў бок адводзіць выбух ракавы.

●

Я ў шматпародным лесе,
быццам дома,
Куды гатоў наведвацца штодня.
Тут кожная галінка мне вядома,
Тут кожная сцяблінка мне радня.
Мяне б тут зразумелі і пачулі,
Калі б і слова не сказаў, маўчаў.
З маленства ў школе роднае
Я мову дрэў і птушак вывучаў.
Падступяцца зманлівання словы,
Дзе слодычы шчымлівы міг знайду,
Калі да беластволае бярозы,
Нібыта да жанчыны, прыпаду.
Хіба душа па вышыні не смягне?
Кроў малаточкам застукоча ў скронь,
Як зверху з-пад аблокаў мне працягне
Яго высокасць клён сваю далонь?
Прасвятліць зрок
мне празарэння зорка:
Развее ўраз журботы ўсе мае,
Як балерына, зграбная вавёрка.
Што на галінках скокі выдае.
Я з родным лесам звязаны,
як з лёсам,
Што ласкай нас сваёй не абміне.
Гукну —
і ў момант рэхам шматгалосым
Па-беларуску лес адкажа мне.
Гатоў ад шчасця я скакаць да столі:
Якая жыццядайная пара!
Да дрэў, як да таварышаў па долі,
Прыходзіць чалавек без тапара.

●

Нас Усявышні вучыць,
Галовы прасвятляе:
Любоў самотных лучыць,
Нянавісць падзяляе.

Шлях выбірае гладкі
У пошуку прахожы.
Любоў будуе кладкі,
Нянавісць — агароджы.

Наш дом шматпавярховы,
Бядой раскалыханы,
Ці часта чуеш словы
"Каханая", "каханы"?

Гняце падчас любога
Бяссонных думак навісь:
У нас любоў — ад Бога,
Ад сатаны — нянавісць...

І як тут разбярэш ты,
Адкуль жа мы і хто мы?
Каму служыць нам рэшты,
Не ведаючы стомы?

Сябе не пераскочым,
Хай нават мы з вусамі.
Каб нас любілі, хочам,
Але ці любім самі?

●

Утаймаваць хоць трошкі вам бы,
Прамоўцы, свой запал трайны,
Калі пяеце дыфірамбы
Таварышу каля труны.

У словах трубнае пашаны
Мільгаюць клічнікі адны,
Скрыгоча голас
ваш бляшаны,
Як дыск пласцінкі заядны.

Святыя згадваючы лікі,
Адно карціць вам прасвятліць,
Якую годнасць прышпіліць, —
Выдатны, відны ці вялікі...

Грымяць прамоўніцкія хвалі...
А ці ж не вы, а ці ж не вы
Яго штодзённа забівалі,
Калі яшчэ ён быў жывы?

Спагадлівыя зробяць твары,
Растраціўшы сумленне ўшчэнт,
Згубіцелі сваёй ахвяры
Рупліва ўзводзяць манумент.

Ім як узлёт — чыясьці страта,
Крывіць душой не ўпершыню.
І нават смерць свайго сабрата —
Для іх прыступка ў вышыню.

●

Усё, чым даражыў,
Апшчадна я збярог.
І хоць тужыў, а жыў,
І не згінаўся ў рог.

Мяне хіліцца ніц
Прымусіць не змаглі
Я дужасць піў з крыніц
Бацькоўскае зямлі.

Спазнаў і высь, і дол,
Мяне ў сваёй дзялбе
То д'ябал, то анёл
Цягнулі да сябе.

Я сам, не ў прыклад ім,
Да зорак дастаю...
Дагэтуль на сваім,
Як і стаяў, стаю!

І з невяду майго
Удача не ўцячэ.
Скажыце мне, чаго
Вы хочаце яшчэ?

●

Ах, чыноўнікі, чыноўнікі,
Канцылярскія краты,
Папяровых гор ахоўнікі,
Дрогкіх пёраў бег круты!
Без касы няшчадна косіце,
Не турбуючы башкі,
Просьбітам прысуд выносіце,
Кабінетныя бажкі.
Вушы ў вас заткнуты ватаю,
Хоць і выгляд рулявы,
Непарушна дубаватыя,
Як і вашы твары, вы.
Набрынялыя праклёнамі
(Ох, бы ўжо зыход скарэй!)
Ходзяць просьбіты
з паклонамі
Ад дзвярэй і да дзвярэй.
І адкуль узяць цярплівасці
Можа бедны чалавек
У прыёмнай справядлівасці
Прачакаць увесь свой век?
Ах, чыноўнікі, чыноўнікі,
За сталамі ля сцяны
Усседаеце, як змоўнікі,
Падгалоскі сатаны.
У душу залезці з меркаю —
Вось саноўны ваш намер.
Толькі гербавай паперкаю
Вызначаеце давер.
Валадарачы, не тужыце
У народа на гарбе.
А каму вы ўсё-ткі служыце?
Людзям ці самім сабе?

ДА КАГО Ў АБДЫМКІ?

# БАЛГАРЫЯ І РАСІЯ — РОЎНАСЦЬ ЦІ ДЫКТАТ

***Што гаварыць пра дружбу народаў, тым больш роднасных... Балгары, вядома ж, заўсёды будуць удзячныя рускім людзям (як і беларусам), якія адыгралі рашаючую ролю ў вызваленні Балгарыі ад 500-гадовага асманскага ярма. У нашых народаў супярэчнасцяў няма, а вось выказванні вышэйшых службовых асоб РФ адносна Балгарыі выклікалі ў балгарскай грамадскасці неспакой, і яна, грамадскасць, адрэагавала на праблему адносін Балгарыі і Расіі, створанай апошняй, абмеркаваннем яе за "круглым сталом" у Аб'яднанні балгарскіх пісьменнікаў, фрагменты з выступаў удзельнікаў якога падаём у скарочаным выглядзе. ("Литературен Форум", N 16, 17—23 красавіка 1996 г.) Адказ на пытанне, чаму мы перадрукоўваем матэрыял, — у самім матэрыяле.***

**Бажыдар КУНЧАЎ:** ...Словы, якія прагучалі з вуснаў Барыса Ельцына, не трэба ўспрымаць як непрадуманую фрывольнасць, а як сапраўдную пагрозу нашаму нацыянальнаму суверэнітэту.

Мяркую, што надышоў апошні момант для татальнай кансалідацыі грамадства, усяго духоўнага, што ёсць у нашай краіне. Дамаганні рускіх павінны сустрэць адпор усяго народа. Нам патрэбна катэгарычна супрацьпаставіць сваю волю і той злавеснай і рэтраграднай сіле ў нашай палітычнай прасторы, якая гатова здрадзіць нам, не міргнуўшы вокам. Іначай, як бы гэта ні выглядала абсурдным, уся далейшая наша гісторыя будзе працягвацца пад няспынным і абязлічальным нас дыктаце рускага імперыялізму...

У маёй бібліятэцы — вялікая частка кніг на рускай мове. Сам я бачу розніцу паміж рускай культурай і рускім імперыялізмам. І цяпер, у канцы гэтага стагоддзя, калі нам выпаў шанц увайсці ў прастору Еўропы і стаць яе арганічнай часткай, мы мусім зноў скаланацца ад страху, што можам ператварыцца ў расійскую губерню... Людзі духу, людзі пяра павінны напружыць усе свае сілы, каб данесці і да глухіх, якія змрочныя хмары насоўваюцца на балгарскае неба...

Грачоў палохае нас, што калі НАТА пашырыцца на ўсход, ён размесціць рускія базы ў Балгарыі. Урад левых стаіць перад гэтымі заявамі з рукамі "па швах" і не смее выказаць нашу волю жыць як еўрапейскі народ у незалежнасці, гарантаванай НАТА. Налева і направа рэтраградная прэса паліць агнём і жупелам "Адкрытае грамадства", усіх і кожнага, хто мысліць не так, як яна. На Захадзе нас успамінаюць усё радзей, і наша краіна з нечуванай хуткасцю патанае ў багне ізаляцыі і безаблічнасці. Усё гэта закончыцца вельмі кепска, калі не зрабіць неабходных захадаў і не пайсці ў духоўны і палітычны наступ на антынацыянальныя сілы. Іначай пад націскам неўміручай імперыі зла мы закончым сваё існаванне як забытая Богам Задунайская губерня...

**Міхаіл НЯДЭЛЧАЎ:** ...Страшэнная ўтопія наша заключаецца ў тым, што калі мы рушылі да Еўропы, Расія як бы перастала існаваць для нас, і пасля таго, як мы адвярнуліся ад яе, гэта утопія авалодала нашым грамадствам, як валодала намі некалькі разоў на працягу ўсёй нашай гісторыі. Незалежна ад таго, ці мы адвярнуліся ад яе, ці наадварот — пайшлі ёй насустрач. Расія існуе, і мы — у яе геапалітычнай арбіце...

"Жартаўліваму" запрашэнню Ельцына папярэднічала менш вядомае, але больш небяспечнае выказванне міністра Грачова, зробленае ў экспертным асяроддзі НАТА. Было сказана: калі вы будзеце пашырацца на Усход, уключаючы Польшчу, мы размесцім зброю на Беларусі, магчыма, у Прыбалтыцы і ў Балгарыі. Так і сказаў недвухсэнсоўна міністр Грачоў: і ў Балгарыі! Пры гэтым натаўскія эксперты запыталіся: "А як балгары?" На гэта яны пачулі адказ: "Мы з балгарамі спаразумеліся".

Вось той небяспечны кантэкст, у які ўкладваецца і выказванне прэзідэнта Ельцына, бо ў іншым выпадку мы маглі ўспрыняць яго як нейкае нефармальнае, выпадковае выяўленне ў ягоным стылі...

...У Расіі практычна ідзе працэс падмены палітычных суб'ектаў, няспыннае трансфармаванне, і ў гэтым вялікая небяспека, таму што руская палітыка па сутнасці развіваецца неакрэсленымі шляхамі, сама яе палітычная сістэма ўвесь час хістаецца... Пры такой невыразнасці рускага палітычнага жыцця заўсёды ўзнікае небяспека, што нават людзі, якія традыцыйна лічаць сябе дэмакратамі, могуць прымаць на ўзбраенне такія геапалітычныя ўстаноўкі, што сфармуляваў Андранік Міграням.

Я нядаўна быў у Польшчы, бачыў, як палякі стараюцца зрабіцца лідэрам у сваім рэгіёне, развіваючы адносіны з Беларуссю, Украінай, прыбалтыйскімі краінамі. Словам, яны спрабуюць уцягнуць у дэмакратычны дыялог менавіта гэтыя краіны, каб прадухіліць аднаўленне Савецкага Саюза. Але вось жа бачыце, што сталася сёння з Беларуссю. Кажу ўсё гэта таму, што Балгарыя цяпер — разгароджаная зона ва ўсіх адносінах, г. зн. дзяржава без дзяржаўнасці, якая мела магчымасць у 1991 годзе стаць лідэрам на Балканскім паўвостраве — нават пры ўмовах вайны ў Югаславіі, пры нестабільнай палітыцы і самаізаляцыянізме Грэцыі ў адносінах да еўрапейскай інтэграцыі. Уважаючы яшчэ і шэраг іншых фактараў, мы пры стабільнай дзяржаўнасці і стабільным дэмакратычным сектары сапраўды маглі стаць лідэрам на Балканах — такім, якім цяпер становіцца Польшча ў сваім рэгіёне...

**Васіл КІНАЎ:** Я сачу за польскім друкам, і нешта страшнае мне ўбачылася ў адным загалоўку. Загаловак такі: "З падпісаннем дамовы Беларусь — Расія зроблены першы крок". Сапраўды, крок зроблены, яны падпісалі гэту дамову, значыць, на чарзе іншыя дзяржавы, пералічаныя панам Ельцыным...

Прафесар **Пламен ЦВЯТКОЎ:** Я буду гаварыць у асноўным як гісторык... На жаль, нас праз стагоддзі абпраменьвалі. Пачынаючы з XVII стагоддзя. У XVIII ст. выйшаў маніфест Кацярыны Другой, у якім гаворыцца: такія і такія народы — славяне, яны выхадцы з Расіі і рана ці позна яны зноў вернуцца пад наш скіпетр... Сярод гэтых "славянскіх народаў" пералічаны і албанцы, і румыны... Самае страшнае ў панславізме гэта тое, што народ, які ён лічыць славянскім, па сутнасці не народ, а нейкая частка агульнай рускай славянскай супольнасці. Для панславістаў рускі і славянін — гэта адно і тое ж. Яны не прызнаюць, што палякі альбо чэхі ёсць нешта асобнае ад рускіх. Адмаўляецца ўся культура і спецыфіка гэтых славянскіх народаў... Гэта адзін геапалітычны момант.

Другі звязаны з тэмай круглага стала: "Балгарыя і Расія — роўнасць ці дыктат". Роўнасці паміж невялікай і вялікай дзяржавамі ніколі не можа быць...

Зусім невыпадкова, што апошнім часам кіраўнікі Расіі падкідваюць нам ідэю пра нейтралітэт — няхай Балгарыя будзе нейтральная. Што гэта азначае? Гэта азначае толькі тое, што ў такім выпадку Балгарыя застанецца сам-насам з Расіяй, і з гэтага моманту ні пра якую роўнасць і гаворкі быць не можа...

Нацыяналізм БСП (Балгарская сацыялістычная партыя. — **В. М.**) — яўна не балгарскі, а рускі нацыяналізм. Колы, якія нацкоўваюць нас на нашы меншасці, відавочна выконваюць чужую волю.

Трагедыя Расіі ў тым, што ў свой час аб'яднанне рускіх зямель пайшло не ад Ноўгарадскай рэспублікі, а ад дэспатычнага Вялікага княства Маскоўскага. І з таго часу ўсе няшчасці, у першую чаргу для самой Расіі, потым для ўсіх народаў, якія па адным ці іншым злашчасным збегу акалічнасцей мусяць жыць побач з ёй...

Іншага шляху, акрамя як інтэгравацца ў Еўропу, у нас няма, бо калі Балгарыя застанецца сам-насам з Расіяй, гэта будзе азначаць канец Балгарыі. У мяне іншы раз узнікае адчуванне, што я змагаюся з ветракамі, бо маю амбіцыю прымусіць балгарына паверыць, што ён балгарын. Вось да чаго яго давялі. Для народа без пачуцця ўласнай годнасці няма месца не толькі на заднім двары Расіі, але і наогул не ведаю, ці ёсць месца для такога народа. Аднак не будзем упадаць у крайнасці...

Прафесар **Георгі ФОЦЕЎ**: ...Людзям са скажоным мысленнем я павінен сказаць, і я ўпэўнены, што ўсе, хто тут сабраўся, пагодзяцца са мной, што ёсць Расія Дастаеўскага, Талстога, Лабачэўскага, Бярдзяева, Пастэрнака, Кандзінскага, Салжаніцына і г. д. — усіх не пералічыць... Але ёсць і другая Расія — Расія дыктатараў, людзей, якія пасля такой каласальнай катастрофы нічому не навучыліся і ні ў чым не змяніліся. Мы зноў назіраем адраджэнне камуністычнага менталітэту, адносна якога мы былі наіўныя верыць, што ён можа хутка знікнуць...

Так здарылася, што падчас прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы я быў там, і ад аднаго польскага назіральніка пачуў, што Балгарыя на Балканах ператвараецца ў Беларусь, ад чаго я ажно скалануўся. Падзеі развіваюцца так, нібы сапраўды ў нас ёсць людзі, якія хацелі б зрабіць нашу краіну Беларуссю на Балканах. Мы, інтэлектуалы, не павінны пакінуць гэта без адказу. Хай адкажуць тыя, хто даў людзям падставу думаць, што Балгарыя можа зноў стаць часткай падноўленага Савецкага Саюза.

Дацэнт **Дзімітр ІВАНОЎ:** ...Ці можам мы разлічваць на дэмакратычную Расію?.. Вядома, мы павінны разлічваць на дэмакратычныя сілы ў Расіі, якія б яны слабыя ні былі... Але я не лічу, што пакуль мы жывыя, пакуль будуць жывыя нашы дзеці, Расія стане дэмакратычнай. Яна як была, так і застаецца імперыяй зла. Яна не можа прапанаваць Балгарыі нічога новага, нічога прагрэсіўнага ні ў матэрыяльным аспекце, ні ў ідэйным. Але з дэмакратычнымі сіламі Расіі трэба працаваць... Мы ў Балгарыі не зрабілі нават таго, што пачалося, скажам, у Расіі з пачаткам перабудовы — выкрыццё камунізму да канца...

Цяпер зразумела, што камуністычныя партыі, і сярод іх на першае месца невыпадкова прэтэндуе Балгарская камуністычная партыя, якая была ні больш ні менш — проста секцыяй Камінтэрна. Пра ніякія нацыянальныя інтарэсы і г. д. пры іх немагчыма нават гаварыць. Акрамя таго, што яна была секцыяй Камінтэрна, яна была секцыяй НКУС і КДБ. Георгі Дзімітраў, можа, быў генеральным сакратаром Камінтэрна, але несумненна ён быў і агентам НКУС і КДБ. І пра гэта трэба гаварыць...

А ці можам мы разлічваць на Захад? Ідэя заключаецца ў тым, што мы абавязкова павінны прыцягнуць да нашых нацыянальных спраў дэмакратычны Захад... Нам трэба зрабіць усё магчымае, каб паказаць заходняй грамадскай думцы, што Балгарыя не прымае і ніколі не прымірыцца з гэтымі анонсамі Ельцына, з дактрынай Міграняна і здрадай балгарскіх камуністаў.

Трэба зрабіць усё магчымае, каб да прэзідэнцкіх выбараў апазіцыя аб'ядналася. Трэба так уздзейнічаць на апазіцыйных палітыкаў, каб яны зразумелі, што цяпер не можа быць ніякай палітычнай гульні. Цяпер паўстае пытанне пра існаванне Балгарыі...

**Калін ЯНАКІЕЎ:** ...Гэта імперыя, у адрозненне ад Брытанскай, сама не ведае, у імя чаго яна жадае расшырацца, не ведае, у імя чаго павінна дамінаваць, што прапанаваць краінам, якія хацела б уключыць у сябе. Што яна можа прапанаваць нам, у імя чаго мы павінны ўвайсці ў гэту новую імперыю? Самі рускія не маглі б нам адказаць на гэта. Яны могуць толькі ўказаць на старыя міфалагемы, даўно пазбаўленыя зместу: "браты праваслаўныя" павінны жыць пад адным дахам... Навошта гэта трэба, навошта, каб браты праваслаўныя жылі ў адной дзяржаве? Царква — установа універсальная. Для свайго існавання яна не мае патрэбы ва універсальнай дзяржаве...

**Радой РАЛІН:** Я нагадаю гістарычны выпадак. Пасля таго, як у жніўні 1968 г. Чэхаславакію растапталі, у Прагу прыбыў намеснік міністра Кузняцоў і сустрэўся са старшынёй Народнага сходу Смаркоўскім, які яму заявіў: чаму вы напалі на нас? Мы проста хацелі пабудаваць сацыялізм з чалавечым абліччам... Кузняцоў яму запярэчыў, што чэхаславацкая мадэль сацыялізму памылковая. Добра, — адказаў на гэта Смаркоўскі, — у кітайцаў таксама мадэль сацыялізму адрозніваецца ад вашай, дык чаму вы не акупуеце Кітай, а акупуеце дзяржаву-ліліпут?.. З Кітаем у вас рознагалоссі нашмат большыя. Нашы рознагалоссі мы маглі б вырашыць за "круглым сталом", як вырашалі іншыя пытанні.

Інача кажучы, бачыце, у камуністычных довадах няма ніякай логікі. Яна зводзіцца да таго, што мы выйграем, вы — траціце, мы забіраем гатовае, тое, што вы набылі.

... Чаму б цяпер, калі наша нацыянальная бяспека пад пагрозай, не запрасіць у Сафію кіраўнікоў постсацыялістычных краін на аднадзённую сустрэчу, каб яны вырашылі, ці можа дзяржава, якая нібыта скасавала былы дыктатарскі рэжым, зноў шукаць спосаб, каб вярнуць змрочнае мінулае.

**Агнян МІНЧАЎ**: ...Гэты працэс, які мы сёння абмяркоўваем, пачаўся з першага дня, магчыма, з 1990 г., калі мы рэальна адчулі сябе вольнымі. З таго часу ў Балгарыю рушылі арганізаваныя групы палітычнай паліцыі, замаскаваныя пад журналістаў, прадстаўнікоў партый, арганізацый і г. д. Пачалі ажыццяўляцца розныя захады, каб усё перадавое, звязанае з дэмакратыяй, з правамі чалавека, з аўтэнтычнымі пошукамі і фармуляваннем аўтэнтычнай балгарскай нацыянальнай ідэі, скампраметаваць і абвясціць здрадніцкім, антыбалгарскім, антынацыянальным...

Я не схільны падзяляць песімізм, які натуральна праяўляецца ў самых розных выказваннях наконт таго, што, маўляў, мы нічога зрабіць не можам, што так альбо іначай нас забяруць назад. Можам зрабіць наступнае: сваімі паводзінамі, усім сваім уплывам у грамадстве дасягнуць таго, каб цана вяртання нас назад была дастаткова высокай. Такой высокай, каб не кожны мог яе заплаціць.

Прафесар **Міхаіл АГНЯНАЎ:** Малаверагодна тое, каб Балканы сталі рускай зонай. Аднак для Балгарыі ёсць вялікая верагоднасць стаць рускім гета на Балканах... У свае дзіцячыя гады я быў выхаваны ў сімпатыі да Расіі. Але калі пазнаёміўся з рускімі, калі кантактаваў, працаваў з імі, я адчуў несумяшчальнасць нашага менталітэту з менталітэтам рускім. Кажу гэта не для таго, каб асуджаць, узвышаць якасці балгарына ці прыніжаць рускіх, проста існуе такая гістарычна абумоўленая несумяшчальнасць.

Калі ў фільме пра Беламорканал я прачытаў вядомы ўсім вам, напэўна, лозунг, што жалезнай рукой будуць заганяць чалавецтва ў шчаслівую будучыню, тады прыгадаў думку Дастаеўскага, які выказаў гэту самую думку ў больш узвышанай форме. Ён сказаў, што рускі чалавек не возьмецца ні за што іншае, акрамя як за ўсеагульнае чалавечае шчасце. Бальшавіцкі варыянт і ёсць гэта жалезная рука...

Мяркую ёсць перадумовы, што балгары ўсвядомяць: ісці з Расіяй — гэта не наш шлях. Вядома, Расію мы будзем цаніць, мы ў гравітацыйным геапалітычным полі Расіі, але калі Балгарыя злучыцца з Расіяй, яна проста знікне.

Гэта бесперашкоднае, цытую дакладна словы Ельцына: "бесперашкоднае" цыркуляванне людзей, тавараў і капіталаў — азначае ліквідацыю Балгарыі ў літаральным сэнсе слова.

...Такім чынам, адсюль зыходзіць наша задача: усвядоміць, што мы не асуджаныя, што можам яшчэ нешта зрабіць, але і народ павінен зразумець, што і ён можа нешта зрабіць. Абавязак нашай інтэлігенцыі ў тым, каб усімі магчымымі сродкамі растлумачыць гэта. Час яшчэ ёсць, таму што гэта не можа адбыцца сёння ці заўтра, лёс наш не можа вырашыцца за некалькі дзён. Так што не трэба ні ў якім разе ўпадаць у песімізм... Захад не адмаўляецца ад нас, акрамя калі мы самі не адмовімся ад яго.

**Георгі МІШАЎ:** Мы ўпускаем нешта вельмі істотнае — што дэмакратычныя сілы ў гэты момант працягваюць быць раздробленымі. Апеляваць з гэтай дэкларацыяй трэба не толькі да сумлення Ельцына альбо да знешніх сіл. А тут, на месцы. Яны наступаюць не таму, што такія моцныя, а таму, што мы раз'яднаныя. Гэта трэба несупынна ўбіваць у галовы балгарам, балгарскім дэмакратычным сілам.

**Пераклала з балгарскай**
**Вера МАСЛОЎСКАЯ**

## ДЗЕ ІНІЦЫЯТЫВА — ТАМ І СПРАВЫ ЛАДЗЯЦЦА

**І не трэба баяцца гэтай высновы, ад якой, як на першы погляд, "патыхае" нечым застойным, калі часта шмат сцвярджалася і мала рабілася. У дадзеным выпадку гаворка пра тое, як у справе нацыянальнага Адраджэння, далучэння да беларускасці шмат значыць праца людзей, апантаных верай ва ўсё беларускае. А да іх акурат і належыць выкладчык беларускай мовы і літаратуры Заграбёнскай сярэдняй школы Чэрвеньскага раёна М. Барбук. Гэта дзякуючы яму ў школе ўзнікнуў свайго роду этнаграфічны музей, хоць афіцыйна ён значыцца як пакой беларускай мовы і літаратуры. Ёсць у гэтым пакоі і вырабы народных умельцаў, ёсць і згадкі пра тое, як жылі беларусы ў розныя часы. А галоўнае — пануе дух беларускасці.**

**Мікалай Андрэевіч падтрымлівае асабістыя кантакты і з пісьменнікамі, і з навукоўцамі. Прынамсі, у сваёй паўсядзённай рабоце часта звяртаецца да даследчыка беларускай даўніны У. Валасевіча, а таксама да М. Мятліцкага — за парадай, за дапамогай набыць неабходную кніжку. Адгукнуўся паэт і на прапанову М. Барбука сустрэцца з вучнямі і настаўнікамі. Гаворка адбылася шчырая, непасрэдная і патрэбная. М. Мятліцкі прачытаў свае вершы, расказаў пра чарнобыльскую бяду, якая абрынулася на ўсіх. Гаварыў ён і пра Чарнобыль духоўны, уратавацца ад якога можна і дзякуючы далучэнню да прыгожага, дзякуючы ўсведамленню, што хараство душы пачынаецца і з ведання роднай літаратуры, мовы.**

**Н. К.**

## РУКАДЗЕЛЬНІЦЫ



**Невялікая вёска Грушаўка ў Маларыцкім раёне славіцца сваімі рукадзельніцамі. Асабліва любяць тут мастацкую вышыўку. І калі настае вясна, жанчыны вывешваюць усё зробленае за зіму ў сябе ў двары. Каб ветрык ды сонейка папрацавалі над іх вырабамі, ды і суседка да суседкі, як на выстаўку, ходзіць, каб пагледзець на зробленае.**

*На здымку: Ганна Іванаўна і Галіна Сцяпанаўна Кацялёвы з вышытымі імі ручнікамі.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## ЧЫМ ЖЫВЕШ, БЕЛАРУСКАЯ ТЭРПСІХОРА?

**На гэтае пытанне можна знайсці адказ, пазнаёміўшыся з шостым нумарам беларускага балетнага часопіса "Вестник". Дарэчы, адзін з раздзелаў яго так і называецца — "Беларуская Тэрпсіхора". У ім змешчаны гутаркі А. Стулавай з В. Елізар'евым ("Узмахам крыла "Лебядзінага" абмалёвана прыгажосць"), Н. Земляковай — з Л. Бржазоўскай ("Я навучылася жыць пановаму").**

**У рубрыцы "У Вялікім тэатры балета Беларусі" развагі Н. Кульган пра маладога акцёра А. Мартынава ("Героем камедыйнага балета"). Пад рубрыкай "Буйным планам" змешчаны артыкул В. Грыгор'ева "Жыццё ў балеце. Аляксандр Калядэнка".**

**Як вядома, балетная трупа тэатра музкамедыі, якую ўзначальвае Н. Дзічэнка, стала дзейсным творчым калектывам. Якім? Пра гэта можна даведацца, пазнаёміўшыся з публікацыямі "Вестника".**

**Змястоўная і "Прэс-служба" "Вестника".**

Норавы

# ЧАЛАВЕК СА ЗБРОЯЙ

МНЕ Б вельмі не хацелася, каб у гэтым маім апавядзе чытач убачыў нейкую, так бы мовіць, антыміліцэйшчыну. Журналісцкія сцежкі неаднойчы зводзілі мяне з людзьмі ў міліцэйскай форме, і многія з іх, як я мог упэўніцца, заслугоўвалі павагі і... спачування, бо даводзілася ім па сваіх службовых абавязках мець справу, як кажуць, не з лепшай часткай чалавецтва, а нярэдка і рызыкаваць жыццём. Бо невядома яшчэ, хто сёння лепш узброены — праваахоўныя органы, ці злачынны свет.

Я ўжо працаваў над гэтымі нататкамі, калі газеты краіны абышла інфармацыя аб крывавай драме ў Оршы, дзе затрыманыя чыгуначнай міліцыяй двое падазроных, пасля дастаўкі іх у аддзяленне, адкрылі там агонь з пісталетаў і, у дадатак, кінуўшы гранату, забілі аднаго і цяжка паранілі пяцёх работнікаў міліцыі. Праўда, адзін з высокіх чыноў Міністэрства ўнутраных спраў, з якім мне давялося гутарыць з гэтай нагоды, крытычна паставіўся да дзеянняў тамашняй міліцыі, якая, мяркую, у тым здарэнні паказала сябе не лепшым чынам, дзейнічала непрафесійна (затрыманыя не былі папярэдне нават абшуканы).

Але як бы там ні было, не сакрэт, што нашы органы правапарадку ў сутыкненні са злачынцамі нясуць адчувальныя страты. Толькі летась, як мне сказалі ў прэс-цэнтры МУС рэспублікі, было забіта 7 і паранена 48 работнікаў міліцыі...

І, разам з тым, не сакрэт, што аўтарытэт нашых органаў унутраных спраў, давер да іх насельніцтва ўстойліва нізкі. І не толькі таму, што не ўдаецца адолець злачынства, якое год ад году набірае моцы, а таму яшчэ, што само слова — міліцыя ў многіх грамадзян, мо і на падсвядомым узроўні, асацыіруецца з нечым такім, да чаго лепш не мець дачынення.

Помніцца, я завёў гаворку пра гэта ў час інтэрв'ю з былым першым намеснікам міністра ўнутраных спраў Віктарам Аляксеевічам Кавалёвым, чалавекам, які, як я ведаў, прайшоў шлях ад радавога міліцыянера да генерала міліцыі. Як і можна было чакаць, мой суразмоўнік катэгарычна са мной не пагадзіўся, даводзячы, што гэта некаторыя газетчыкі ствараюць адмоўны імідж міліцыі, падхопліваюць абывацельскія размовы аб яе нібыта жорсткасці, пануючым там "беспределе" і да т. п. На самай справе, наша міліцыя па яе стаўленні да грамадзян мо самая ліберальная ў свеце. Не помню ўжо, гаварыў ён пра свае ўласныя назіранні ў час сваёй паездкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, ці спасылаўся на словы калег, якія там пабылі, але прывёў Віктар Аляксеевіч такі прыклад: у тых жа ЗША, калі затрыманы паліцыяй чалавек лезе рукой у кішэню, у яго адразу, без папярэджання, страляюць... Досыць распаўсюджаная байка, у якую слаба верыцца. Затое агульнавядомы факт — амерыканскі палісмен абучаны аказваць неадкладную медыцынскую дапамогу і нават прымаць, пры пільнай неабходнасці, роды.

Што да "лібералънасці" нашай роднай міліцыі, дык у папулярных "Аргументах и фактах", дзе можна знайсці парады на ўсе выпадкі жыцця, нядаўна была змешчана нататка, аўтар якой дае парады, як сябе паводзіць пры затрыманні міліцыяй нават з самай нязначнай нагоды (скажам, не там перайшоў вуліцу). Сярод тых парад запомніліся такія: ні ў якім разе не пярэчыць міліцыянеру, не адказваць на яго лаянку ці знявагу, не пагражаць, што пойдзеш скардзіцца пракурору, падасі ў суд і г. д. Адным словам, міліцыя заўсёды "права".

Недзе я чытаў, што ў псіхалогіі чалавека, які мае ўладу над іншымі людзьмі, ды яшчэ ўзброенага, адбываюцца змены, якія істотна ўплываюць на яго "поведенческий" настрой. Я не прыхільнік абсалютызацыі чаго б там ні было, і гаворку ў дадзеным кантэксце можна весці толькі пра асобныя прыклады падобнай "личностной" трансфармацыі, але ж, у рэшце рэшт, выключэнне часта толькі пацвярджае правіла.

...ПАБЫЎШЫ амаль суткі на дзяжурстве, аперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС г. Мінска старшы лейтэнант, дваццацічатырохгадовы Аляксандр Маціеўскі разам з трыма калегамі-сышчыкамі Вядмедзем, Дамашэвічам і Панамарэнкам перад тым, як разысціся па хатах, вырашылі крыху "пасядзець", для чаго, прыхапіўшы дзве бутэлькі гарэлкі, зайшлі ў рэстаран Дома афіцэраў. Выйшлі яны адтуль а адзінаццатай гадзіне вечара на добрым падпітку. Стаяў цёплы ліпеньскі вечар, яшчэ толькі-толькі сцямнела, і на вуліцы было нямала прахожых. Сябры-таварышы пачалі "лавіць" таксі, як раптам... Пра тое, што адбылося далей, падрабязнейшым чынам расказваецца ў абвінаваўчым заключэнні, якое неўзабаве было прад'яўлена пракуратурай Кастрычніцкага раёна сталіцы згаданаму вышэй А. Маціеўскаму. З невялікімі скарачэннямі прывядзём яго на мове арыгінала, захаваўшы спецыфічны стыль гэтага дакумента. *"...А. Матиевский превысил служебные полномочия, то есть умышленное совершение должностным лицом действий, явно выходящих за пределы права и полномочий, представленных ему законом, сопровождавшихся насилием, применением оружия и унижением собственного достоинства потерпевших действиями. А именно, 21 июля 1994 года около 23 часов будучи в состоянии опьянения возле входа в метро станции "Октябрьская" А. Матиевский беспричинно остановил Д. Барановского и стал его избивать, нанеся Барановскому несколько ударов кулаками и ногами по разным частям тела. Когда Барановский пытался бежать, то Матиевский стал преследовать потерпевшего, требуя остановиться, угрожая табельным оружием, заставил лечь на землю. В результате Барановскому были причинены телесные повреждения в виде кровоподтека вокруг правого глаза, ссадины лба, относящихся к категории лёгких телесных повреждений, не повлекших кратковременного расстройства здоровья.*

*Когда находившаяся с Барановским Н. Гуринович потребовала прекратить избиение Барановского, Матиевский стал избивать Гуринович, нанеся ей несколько ударов в область головы, ногами по ногам, пистолетом в область лица и угрожая применением пистолета, заставил Гуринович лечь на землю.*

*После содеянного, он же, в указанном месте и в указанное время, не имея оснований задержал и доставил в помещение Октябрьского РОВД по ул. Фабрициуса, 26 потерпевших Екатерину Королеву и Юлию Громову (прозвішчы зменены. — **М. З.**), где незаконно удерживал в течение двух часов.*

*Он же совершил покушение на изнасилование, а именно, после доставки потерпевших 21 июля 1994 года около 24 часов ночи, будучи в состоянии опьянения, находясь в помещении РОВД А. Матиевский с целью изнасилования завёл Ю. Громову в женский туалет, где под угрозой применения насилия пытался изнасиловать ее в извращенной форме (в рот), однако преступный умысел не довел до конца по независящим от него причинам, так как Ю. Громова оказала сопротивление и стала звать на помощь.*

*Он же совершил изнасилование будучи лицом ранее совершившим такое преступление, так как в указанное время, в указанном месте с целью изнасилования завел в женский туалет Е. Королеву, где под угрозой применения пистолета и применения физического насилия, выразившееся в том, что он нанес удар кулаком в область живота Е. Королевой, снял с нее одежду и дважды совершил с ней насильственный половой акт против ее воли".*

Народны суд Ленінскага раёна г. Мінска, які пад старшынствам суддзі А. Васілевіча разглядаў гэтую справу, асудзіў А. Маціеўскага да пяці з паловай гадоў зняволення ў працоўна-папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму, а пасля адбыцця пакарання — пазбаўлення А. Маціеўскага на працягу трох гадоў права займаць пасады ў органах унутраных спраў. Суд вынес таксама прыватнае вызначэнне па адрасе Кастрычніцкага РАУС г. Мінска.

На гэтым, здавалася б, можна было ў гэтай гісторыі паставіць кропку. Ды чым далей я знаёміўся з крымінальнай справай А. Маціеўскага, тым больш пытанняў у мяне ўзнікала. Не, даказнасць абвінавачвання (а старшы следчы пракуратуры Кастрычніцкага раёна Тамара Мікалаеўна Тарвердава, трэба аддаць ёй належнае, скрупулёзна даследавала ўсе абставіны злачынства, здзейсненага А. Маціеўскім) сумненняў у мяне не выклікала. Здзівіла, па-першае, незвычайная маруднасць, з якой у дадзеным выпадку дзейнічала судовая ўлада. Так, мы ўсе наслуханы аб незвычайнай перагрузцы нашых судоў, але каб да такой ступені... Памяркуйце самі — А. Маціеўскі здзейсніў свае злачынствы 21 ліпеня 1994 года, а прысуд яму па гэтай справе быў вынесены амаль праз паўтара года — у снежні 1995 года.

Гэта тым больш незразумела, калі мець на ўвазе, што следства па справе Маціеўскага было закончана ўжо 2 лістапада 1994 года і адразу перададзена ў суд.

Я зрабіў спробу высветліць прычыны такой маруднасці ў суддзі А. Васілевіча (неўзабаве пасля судовага працэсу над Маціеўскім ён атрымаў павышэнне, быў пераведзены на працу ў Мінскі гарадскі суд). Аляксандр Іванавіч патлумачыў гэта тым, што, па-першае, абвінаваўчае заключэнне, перададзенае ў суд пракуратурай, было вернута назад з-за няправільнага афармлення (Т. Тарвердава ў размове са мной пацвердзіла, што гэта сапраўды мела месца — па віне машыністкі ў дакуменце была пераблытана дата, якой ён быў пазначаны, але памылка была адразу выпраўлена), па-другое, шмат часу адняў інцыдэнт з прызначэннем абаронцы А. Маціеўскага. "Наняты" ім адвакат, як аказалася, не меў адпаведнай ліцэнзіі на вядзенне адвакацкай практыкі. Прыйшлося Маціеўскаму падшукваць новага адваката, ды пакуль знайшоў яго, пакуль той пазнаёміўся са справай...

Але былі і іншыя прычыны, што стрымлівалі адпраўленне правасуддзя. З самага пачатку кіраўніцтва Кастрычніцкага РАУС рабіла ўсё, каб не "здаць" свайго работніка, абараніць гонар мундзіра. Следчаму пракуратуры Т. Тарвердавай, па яе словах, неаднойчы давалі зразумець, што яна "не там" шукае злачынцаў, што пайшла на паваду ў паклёпнікаў, што наогул не ў яе інтарэсах псаваць адносіны з міліцыяй і да т. п.

Ды і сам Маціеўскі прадэманстраваў цуды выкрутлівасці. Арыштаваны па санкцыі пракуратуры 27 кастрычніка 1994 года ("Я адразу ўбачыла, што гэта за тып, — расказвала мне Тамара Мікалаеўна, — і настояла, каб да яго была ўжыта мера стрымання — змяшчэнне ў следчы ізалятар"), А. Маціеўскі закідаў судовыя інстанцыі, да Вярхоўнага суда ўключна, скаргамі на незаконныя ў адносінах да яго дзеянні і патрабаваннямі абараніць яго гонар і годнасць. Адно з такіх прашэнняў — змяніць яму меру стрымання, вызваліць з-пад варты — было задаволена Маскоўскім судом сталіцы (па месцы знаходжання следчага ізалятара МУС рэспублікі). Такім чынам, праз дзевяць дзён пасля арышту, — 4 лістапада — А. Маціеўскі аказаўся на свабодзе, праўда, даўшы падпіску аб нявыездзе за межы г. Мінска. Як ён пакарыстаўся гэтай свабодай, мы яшчэ раскажам...

Адпаведна вялі сябе супрацоўнікі крымінальнага вышуку Вядмедзь, Дамашэвіч і Панамарэнка, якія былі ў той ліпеньскі вечар з Маціеўскім у адной кампаніі і выступалі ў якасці сведкаў. І ў час следства, і на судовым працэсе яны катэгарычна абвяргалі сведчанні пацярпелых, характарызуючы іх як наўмысны агавор, накіраваны на кампраметацыю міліцыі...

Я АБЫЯКАВА стаўлюся да заходніх шматсерыйных так званых "мыльных опер", што запаланілі нашы тэлеэкраны. Не складае тут выключэння і найбольш папулярны з гэтых "твораў" — "Санта-Барбара". Але пры ўсёй штучнасці сюжэтных калізій, зададзенай аднамернасці персанажаў, серыял гэты ўсё-такі цікавы тым, што па ім можна скласці ўяўленне аб некаторых рэаліях амерыканскага жыцця. Прынамсі, мясцовым судаводстве з яго такім абавязковым атрыбутам, як дача паказанняў пад прысягай, г. зн. пакляўшыся на Бібліі. Змяніць, схлусіць, увесці права-

суддзе ў зман пасля такой клятвы — значыць свядома паставіць сябе па-за законам, па-за грамадствам.

Згадаем, што многія персанажы “Санта Барбары” па волі аўтараў серыялу ў розных якасцях удзельнічаюць у судовых працэсах, дзе, як сведкі, даюць паказанні “пад прысягай”, часам насуперак сваім асабістым інтарэсам расказваючы суду тое, што, здаецца, маглі б і ўтаіць, бо іншых сведкаў здарэння не было. І гэта не кіношная прыдумка, гэта норма жыцця.

Я б, вядома, зманіў, калі б сказаў, што ў нас няма законаў, якія б прадугледжвалі адказнасць за дачу лжывых паказанняў у судзе. Кожны сведка, які прымае ўдзел у судовым працэсе, дае падпіску, што азнаёмлены з артыкуламі 177 і 178 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу рэспублікі, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за наўмысны ўвод суда ў зман. Але справа ў тым, што такі подпіс сведкі, як правіла, не больш чым фармальны акт. Я пацікавіўся ў некаторых мінскіх суддзяў, ці шмат было ў іх практыцы выпадкаў прыцягнення сведкаў да крымінальнай адказнасці за дачу лжывых паказанняў, і ніхто з іх не мог згадаць падобнага факта. І, вядома, не таму, што нашыя сведкі самыя праўдзівыя ў свеце...

Ды і наогул, пра якія “клятвы” ў нас можна весці гаворку, калі нават зляцеўшыя з вуснаў дзяржаўных мужоў тут жа ператвараюцца ў міраж. Ды і самі яны ў іх не вераць, як нядаўна з салдацкай праматой засведчыў у Вярхоўным Савеце новы міністр унутраных спраў краіны В. Агалец, які, у час яго зацвярджэння на пасадзе, на пытанне аднаго з дэпутатаў, ці можа ён паклясціся, што будзе захоўваць канстытуцыйныя нормы, законы, адказаў, што з яго дастаткова, што ён абавязаўся ва ўсім падпарадкоўвацца прэзідэнту краіны, які з'яўляецца гарантам Канстытуцыі, а ўсе іншыя клятвы і абяцанні нямнога вартыя...

Не ўпершыню знаёміліся са зместам згаданых вышэй артыкулаў Крымінальна-працэсуальнага кодэкса і хаўруснікі А. Мацееўскага, сведкі яго подзвігаў. Не ўпершыню, хоць бы па той прычыне, што ўсе яны, уключаючы і Мацееўскага, маюць вышэйшую юрыдычную адукацыю. Тым не менш, як я ўжо згадваў, і ў час следства і судовага працэсу яны бязбожна лгалі насуперак самым відавочным фактам. Да прыкладу, услед за Мацееўскім, які, бязлітасна збіўшы пацярпелую Н. Гурыновіч і прымусіўшы яе легчы на зямлю, гаварыў, што гэта яна сама выпадкова ўпала, спатыкнуўшыся, тое самае паўтарылі і сведкі, хоць і былі азнаёмлены з заключэннем судмедэкспертызы, якая засведчыла шматлікія сляды пабояў на целе дзяўчыны: ад “многочисленных кровоподтеков в области правого предплечья, плечевого сустава, на поверхности правого плеча” да “кровоподтеков на наружной поверхности левой голени, наружной поверхности правого бедра, наружной поверхности левого голеностопного сустава...” Нічога сабе, “споткнулась”...

Згаданыя сведкі, як, дарэчы, і кіраўніцтва Кастрычніцкага РАУС, рабілі ўсё, каб абвергнуць адзін з самых істотных пунктаў абвінавачвання — наяўнасць у Мацееўскага ў час інцыдэнту зброі, — замацаванага за ім табельнага пісталета. Сведчанні пацярпелых на гэты конт нібыта паклёп, агавор. Пракуратура і суд у гэтым пытанні схіліліся да іншай думкі — зброя ў Мацееўскага была. Як, дарэчы, і ў яго хаўруснікаў. Спробы следства знайсці ў Кастрычніцкім РАУС нейкія адзнакі таго, што Мацееўскі і яго таварышы пасля дзяжурства здалі зброю, адсутнічалі. Ды гэта вымушаны быў пацвердзіць і в. а. начальніка райаддзела ўнутраных спраў С. Дубаневіч, які напісаў такую даведку: *“Получение и сдача ежедневно оружия в дежурную часть фиксации в каком-нибудь журнале не подлежит, контроль за сдачей оружия и его хранения возложен на дежурного по РОВД, в случае нарушения последний докладывает по команде начальнику РОВД. 21 и 22 июля 1994 года таких нарушений не было выявлено. В связи с этим, документально подтвердить сдачу оружия в дежурную часть А. Матиевским, С. Пономаренко, Г. Домашевичем и С. Ведмедем не представляется возможным”.*

Вось такія тут парадкі, такі кантроль за ахоўваннем зброі. Ці будзеш пасля гэтага здзіўляцца, адкуль яе столькі ў крымінальным свеце?

СЁННЯ шмат гавораць і пішуць пра так званыя неспраўкаваныя забойствы, колькасць якіх увесь час расце. Звычайна гэта справа рук вылюдкаў, напампаваных алкаголем і наркатой. Тут, здаецца, усё “зразумела”. Але як растлумачыць выпадкі, якія надараюцца ўсё часцей і часцей, неспраўкаваных нападаў на грамадзян нашай міліцыі, нападаў, якія вызначаюцца выключнай жорсткасцю? Што гэта — нястрымны сверб пачасаць рукі, балазе пад бокам гумавая дубінка, ды яшчэ безабароннасць ахвяры?

А. Мацееўскі раптам пачаў збіваць Д. Бараноўскага таму, што той нібыта падаўся яму падазроным, ва ўсякім разе так ён потым тлумачыў. Што датычыць затрымання дзвюх сімпатычных дзяўчат з кампаніі Бараноўскага і дастаўкі іх у аддзел унутраных спраў, дык гэта Мацееўскі патлумачыў пастановай Мінскага гарвыканкома, якая забараняе з'яўленне на вуліцах горада непаўналетніх юнакоў і дзяўчат без суправаджэння бацькоў або асоб, якія іх могуць замяніць. Не будзем каменціраваць гэтую пастанову (так званую аперацыю “Падлетак”), якая па сутнасці ўстанаўлівала для непаўналетніх своеасаблівы каменданцкі час. Тым больш, што яна ўсё роўна не выконвалася і не выконваецца. Прайдзіце па вечаровых вуліцах Мінска — на іх поўна падлеткаў. У тым ліку такіх, якім для агульнага спакою лепш было б сюды не з'яўляцца. Але калі Мацееўскаму і захацелася раптам прадэманстраваць службовы спрыт (дарэчы, менавіта такія дробныя правапарушэнні не ўваходзяць у кампетэнцыю работнікаў крымінальнага вышуку, ім павінна і без гэтага хапаць работы), дык толькі аднаму Богу вядома, як ён мог прыняць дзвюх студэнтак (а ўся кампанія Бараноўскага складалася з былых аднакласнікаў, а цяпер студэнтаў мінскіх ВНУ) за непаўналетніх падлеткаў.

Але ўсё было проста, як мычанне каровы. “Кінуўшы вока” на сімпацяг-дзяўчат, ён вырашыў імі пакарыстацца. Для таго і даставіў іх не ў Ленінскі РАУС, на тэрыторыі якога адбылося затрыманне, а ў свой родны Кастрычніцкі.

Я спачатку не мог зразумець, як Мацееўскаму ўдалося практычна даставіць пацярпелых у аддзел унутраных спраў, тым больш, што ў сваіх наступных паказаннях дзяўчаты апавядалі пра машыну, у якой іх везлі, не кажучы куды (Мацееўскі і яго таварышы былі ў цывільным і работнікамі міліцыі спачатку не прадстаўляліся). І толькі яшчэ раз уважліва перагартаўшы судовую справу, знайшоў паказанні вадзіцеля той машыны. Аказалася, як на тое ліха ён у гэты начны час развозіў па дамах аддзяжурыўшых работнікаў Кастрычніцкага РАУС. Яго, калі праязджаў міма, і ўпільнаваў Мацееўскі, загадаўшы везці затрыманых у аддзел.

А там адбылося тое, што адбылося. У час следства, на вочных стаўках, на судзе Мацееўскі ўсё абвяргаў. Але ніяк не мог растлумачыць, чаму праігнараваў існуючае правіла рэгістрацыі ўсіх затрыманых у кнізе ўліку дзяжурнай часці міліцыі. Такіх запісаў адносна Ю. Громавай і Е. Каралёвай зроблена тут не было. Ён пацягнуў іх адразу на другі паверх у свой кабінет. Так ужо стала, кажучы па-руску, “невтерпеж”... Пасля ён праводзіць Каралёву дадому, і калі ўстрывожаныя бацькі адчыняць дзверы, ветліва павітаецца з імі і растлумачыць, што іх дачка была памылкова затрымана міліцыяй і каб яны на яе не сварыліся, бо яна “хорошая девочка”.

Даведаўшыся праз пару дзён, што пацярпелыя вырашылі не маўчаць і звярнуліся ў пракуратуру, А. Мацееўскі пры дапамозе С. Панамарэнкі спрабуе наладзіць кантакт з Бараноўскім і прапанаваць яму “адкупныя” 5 тысяч долараў. Не атрымалася — пацярпелыя не адступіліся ад свайго намеру прыцягнуць Мацееўскага да адказнасці...

Мне вельмі хацелася сустрэцца з “великолепной четверкой”, пагутарыць з імі, паглядзець, што гэта за людзі. На жаль, сустрэцца з імі не ўдалося. С. Вядмедзь неўзабаве пасля здарэння з Мацееўскім быў звольнены з органаў унутраных спраў за... забойства чалавека. Таксама работніка міліцыі. Зайшоўшы па службовых справах у інтэрнат універсітэта культуры, ён напаткаў там саслужыўца Г. Дамашэвіча, які з нагоды выхаднога дня быў на добрым падпітку. Абодва яны ўжо выходзілі з будынка, калі ўбачылі групу амонаўцаў, якія рабілі спробу прайсці ў інтэрнат. Вахцёрка, якая грудзьмі стала на шляху хлопцаў, звярнулася па дапамогу да Вядмедзя, якога ведала як работніка міліцыі. Апошні, выняўшы пасведчанне, патрабаваў ад бузацёраў, каб яны пакінулі памяшканне. Тыя адказалі лаянкай і падступіліся да сышчыка з кулакамі. Вядмедзь выхапіў пісталет, ды ў гэты момант адзін з амонаўцаў, абышоўшы Вядмедзя ззаду (вывучка!), накінуў на яго галаву куртку, пасля чаго той пачаў страляць усляпую, забіўшы аднаго з нападаўшых і параніўшы...Дамашэвіча, які стаяў паблізу. Па факце забойства была ўзбуджана крымінальная справа, але следства прыйшло да высновы, што С. Вядмедзь дзейнічаў у межах неабходнай абароны, і справа была закрыта. Але з органаў яго ўсё-такі звольнілі...

Удалося мне дазваніцца толькі да С. Панамарэнкі, які працягваў працаваць у тым жа крымінальным вышуку. Сустрэцца са мной ён не захацеў, матывуючы гэта тым, што не хоча ўспамінаць старую гісторыю.

Не вельмі хацеў яе ўспамінаць і намеснік начальніка раённага аддзела ўнутраных спраў, ён жа начальнік крымінальнай міліцыі Станіслаў Дубаневіч, з якім я ўсё-такі сустрэўся. Пра ўсе мае роспыты аб Мацееўскім адказваў, што працаваў з ім нядоўга, ведаў слаба: “Паверыце, я з ім і не выпіў ні разу”. Ну што ж, аргумент сапраўды важкі.

Затое, трэба аддаць яму належнае, вельмі хваліў свайго былога падначаленага Аляксандра Мацееўскага былы в. а. начальніка крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС Віктар Богук. Гэта яго подпіс і подпіс былога намесніка начальніка раённага аддзела ўнутраных спраў Аляксандра Новікава стаялі пад службовымі характарыстыкамі на А. Мацееўскага і яго хаўруснікаў, якія захоўваюцца ў судовай справе. Характарыстыкі гэтыя больш нагадвалі прадстаўленне на атрыманне чарговага звання, а то і ўрадавай узнагароды. Са станоўчых якасцей А. Мацееўскага, якія не знайшлі адлюстравання ў тых характарыстыках, Віктар Аляксандравіч пры нашай сустрэчы згадаў яшчэ адну — ён цудоўна іграў на гітары, добра спяваў і наогул быў душой калектыву.

Дарэчы, ужо пасля суда над Мацееўскім, уся гэтая справа абмяркоўвалася на калегіі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў. “За ўпушчэнні” на некаторых кіраўнікоў Кастрычніцкага РАУС былі накладзены спагнанні, але не сказаць каб вельмі суровыя. Неўзабаве былы намеснік начальніка раённага аддзела ўнутраных спраў А. Новікаў быў пераведзены на адказную працу ў абласное ўпраўленне МУС, В. Богук, непасрэдны начальнік А. Мацееўскага, таксама атрымаў павышэнне, стаў начальнікам крымінальнай міліцыі Ленінскага раёна сталіцы.

**P. S.** Так сталася, што пра крымінальную справу А. Мацееўскага я даведаўся ўжо тады, калі суд над ім адбыўся (дарэчы, рашэнне раённага суда пакінута ў сіле і гарадскім). Што ні кажыце, а выпадак усё ж неардынарны, і мо таму я адчуў неадольную патрэбу сустрэцца з самім “героем”. Спачатку мне падалося, што гэта не будзе надта складанай праблемай (такія прэцэдэнты ў маёй журналісцкай практыцы мелі месца), але памыліўся. Там, дзе па маіх меркаваннях, ён павінен быў пасля вынясення прысуду апынуцца, а менавіта ў працоўна-папраўчай калоніі на вуліцы Апанскага ў Мінску, дзе ў адным з атрадаў утрымліваюцца асуджаныя — былыя работнікі праваахоўных органаў, яго не аказалася. А неўзабаве ў адной саліднай праваахоўнай установе мне сказалі, што сустрэчу з Мацееўскім мне ніяк не змогуць арганізаваць, бо знаходзіцца ён... у следчым ізалятары КДБ рэспублікі. Супраць яго ўзбуджана новая крымінальная справа, а менавіта, па факце забойства ў верасні 1995 года старшыні праўлення камерцыйнага “Белмедбанка” (акурат, калі Мацееўскі гуляў на свабодзе, вызвалены з-пад арышту пад падпіску аб нявыездзе). “Крыніца” паведаміла мне, што справа ідзе аб крадзяжы соцень тысяч долараў, што былы сышчык быццам бы ва ўсім прызнаўся і паказаў, дзе схаваны труп банкіра...

В. Богук у час нашай з ім сустрэчы (у ягоным кабінеце начальніка крымінальнай міліцыі) прызнаўся мне, што ведае пра ўсё гэта. “Я, кажется, начинаю понимать, почему Саша Матиевский решился на такое страшное преступление, — уздыхнуў мой суразмоўнік, — понимаете, с органов он уже был уволен, значит, зарплаты не получал, к тому же адвокат стоил немалых денег. Вот безденежье и толкнуло...”

“Безденежье”... Што ж, сітуацыя знаёмая многім з нас. Ды дзе знайсці “падыходзячага” банкіра?

**Міхась ЗАМСКІ**

Сустрэчы

# “ШЧАСЛІВЫ ВЫСТУПАЦЬ ПЕРАД БЕРАСЦЕЙЦАМІ...”

Хаця дзверы ў залу музычнага каледжа, дзе павінна была адбыцца сустрэча з Яўгенам Еўтушэнкам, яшчэ не адчыніліся, але самой сустрэчы ўжо быў пакладзены пачатак. У фае госця абступілі прыхільнікі яго таленту і закідалі шматлікімі пытаннямі: як яму жывецца за межамі роднай краіны? Над чым ён зараз працуе? Наколькі цікавіцца беларускай літаратурай? У чым бачыцца яму прызначэнне жанчыны?.. Пісьменнік ледзьве паспявае адказваць на іх.

Афіцыйнае ж выступленне Я. Еўтушэнка пачаў з прызнання: “Я шчаслівы выступаць перад берасцейцамі. Люблю ваш горад. Упершыню пабываў тут чатырнаццаць гадоў назад, але не забыўся пра тую цёплую сустрэчу...” І гэта відаць хоць бы з таго, што з пяці дзён, на якія Я. Еўтушэнка прыляцеў у Расію для прэзентацыі сваёй новай кнігі, адзін ён прысвяціў наведанню Брэста.

Я. Еўтушэнка расказаў, што разам з сям'ёй жыве цяпер у ЗША і выкладае ў амерыканскіх універсітэтах гісторыю рускай літаратуры і еўрапейскага кіно. Падзякаваў аўтару запіскі “Што галоўнае для вас у “амерыканскім жыцці”?” за тое, што ўзяў выраз “амерыканскае жыццё” ў двукоссе. Падкрэсліў: “Сапраўднае жыццё можа быць толькі на радзіме... Ведаеце, аднойчы я заблудзіўся на сваёй машыне на амерыканскіх дарогах, а мой шасцігадовы сынок, што сядзеў побач са мной, раптам запытаўся: “Тата, а не можа здарыцца так, што забудзеш і дарогу на Радзіму?” Дзіцячае пытанне прама ў сэрца кальнула. Дарогу дамоў нельга забыць. Паверце мне: амерыканцы, якіх я прывучыў чытаць і разумець Ахматаву, Гумілёва, Забалоцкага, Мандэльштама, Пастэрнака, ужо зусім іншыя амерыканцы, чым былі да гэтага. Яны ўжо добра разумеюць тое, што адбываецца ў нас. Паверце: амерыканцы, якія прагледзелі мноства кінафільмаў розных краін і розных часоў, але аддалі перавагу нашым стужкам “Летят журавли” і “Холодное лето 1953 года”, гэта ўжо таксама іншыя амерыканцы...”

Выказаў Я. Еўтушэнка і свой пункт гледжання на многія сённяшнія праблемы, якія хвалююць Расію і Беларусь, заклікаў рабіць усё магчымае для паляпшэння жыцця, узаемаадносін паміж людзьмі, пераконваў, што нельга скарыцца сілам, якія імкнуцца навязаць нашым народам антычалавечыя ўмовы існавання. “Наш общий Бог, спаси от свар кровавых детей Аллаха, Будды и Христа...” Нагадаў, як заўсёды пратэставаў супраць таго, што прыніжае чалавечую годнасць, перашкаджае развіццю дэмакратычных тэндэнцый у гістарычным працэсе.

Я. Еўтушэнка прызнаўся, што ўважліва ставіцца да беларускай культуры. Адазваўся пра В. Быкава як пра цудоўнага чалавека, адзначыў адметнасць творчай манеры Р. Барадуліна і У. Някляева.

Большую ж частку вечара госць чытаў свае вершы: ужо добравядомыя чытачам і з новага зборніка, на прэзентацыю якога прыехаў у Маскву, і зусім новыя — з лісткоў. Прагучалі вершы “Слеза России”, “Завалинка”, “Две снежинки”, “Медленная любовь”, “Лоскутное одеяло”, “Прощание с Красным флагом”, “Вы зовете в прошлое меня...”, “Я люблю тебя больше природы...”, “Шестидесятники”, “XXI век” і інш.

Усе, хто прыйшоў на вечар, мелі магчымасць набыць раман Я. Еўтушэнкі “Не умирай прежде смерти”, які летась атрымаў еўрапейскую прэмію імя Дж. Бакачыо.

На знаходжанне Я. Еўтушэнкі ў Брэсце шырока адгукнуліся абласныя газеты, радыё і тэлебачанне.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ**

**Калектыў Дома літаратара выказвае глыбокае спачуванне мастаку Віктару СТАШЧАНЮКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

Пошта

***Рытарычнасць вынесеных у загаловак тэзаў, на нашу думку, не можа выклікаць сур'ёзных пярэчанняў. Таму, пакінуўшы ў спакоі асобу новапрызначанага міністра, выкарыстаем толькі назоў яго пасады ды й разгледзім больш уважліва першую палову аксіёмы. Які Закон, якому Музею, якой Дзяржавы?***

# ЦІ ПАТРЭБЕН МУЗЕЮ ЗАКОН, А КУЛЬТУРЫ — МІНІСТР?

Культура ў яе шырокім разуменні фарміруецца, развіваецца, функцыянуе па ўласных канонах, не маючы прамой залежнасці ні ад наяўнасці спецыяльнага партфеля ў Кабінеце Міністраў, ні ад асобы, якая ў той ці іншы момант, у той ці іншай краіне гэтым партфелем карыстаецца. Гэтаксама і спецыфічныя музейныя адносіны чалавека да навакольнай рэчаіснасці фарміруюцца, развіваюцца і існуюць незалежна ад наяўнасці спецыяльных законаў ці іх адсутнасці. Калі ж гаворку завесці пра ўстанову, як форму апекі дзяржавы над рознымі відамі і праявамі культуры, то відавочна, што для іх нармальнага функцыянавання патрэбны і закон, і міністр.

На сённяшні дзень на музейную сферу, якая нас перш за ўсё цікавіць, распаўсюджваецца шэраг законаў падзаконных актаў. Дзяржаўны клопат аб захаванні і развіцці гісторыка-культурнай спадчыны зафіксаваны ў артыкуле 15 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: "Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай спадчыны, свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь". Аналагічная норма ў яшчэ больш гучнай форме прысутнічае ў Законе Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны": "Ідэнтыфікацыя, ахова, зберажэнне, папулярызацыя і перадача нашчадкам гісторыка-культурнай спадчыны з'яўляецца святым абавязкам дзяржавы...", а ў Законе "Аб культуры ў Беларускай ССР" "...адраджэнне, зберажэнне, развіццё і распаўсюджванне беларускай нацыянальнай культуры" вызначана ў якасці матэрыяльна-фінансавага прыярытэту дзяржавы.

Тым не менш, нягледзячы на такую аднагалоснасць, музеям Беларусі закон патрэбен. Найперш для таго, каб абараняць культуру, спадчыну, помнікі, як гэта ні парадаксальна гучыць, ад самой улады, ад непрафесійнага чынавенства, якое сустракаецца на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання і лічыць культуру, спадчыну, помнікі, музейныя прадметы нечым "сваім", "калгасным". Пераконвае ў гэтым уласны вопыт працы ў якасці дырэктара Заслаўскага запаведніка. За сем гадоў склалася ўражанне, што запаведнік у горадзе стаўся патрэбен найперш для таго, каб абараніць помнікі, якія яшчэ засталіся, ад разбурэння... уладнымі структурамі. Запаведнік выконваў ролю супрацьвагі, даважка, нечага, што дапамагае савецкай уладзе дацягваць да статуса ўлады нармальнай. Як толькі ўлада стане сапраўды нармальнаю (што адбудзецца ой як не хутка), адпадзе неабходнасць не толькі ў законе, які рэгламентуе адносіны грамады і дзяржавы (улады), але і ў запаведніку як адной з форм аховы спадчыны. Пакуль жа музей як установа інтэлігентная не можа не знаходзіцца ў стане апазіцыі сённяшняй уладзе, прымушаны давучваць яе прадстаўнікоў, а часам і ставіць іх на месца. Калі грамадства зацікаўлена ва ўсталяванні нармальных адносін, яно мусіць іх рэгламентаваць законам.

Якім жа павінен быць закон? Адказ на гэтае пытанне можна сфармуляваць, карыстаючыся вядомым са школы метадам "ад супрацьлеглага". Найперш ён не павінен быць ананімным. Выпадкова сутыкнуўшыся з тэкстам праекта закона, які ўжо выносіцца на абмеркаванне Вярхоўным Саветам у першым чытанні, задаешся пытаннем: "Хто аўтар?" Камісія па культуры Вярхоўнага Савета мінулага склікання ці падкамісія сённяшняга? А, можа, пісала яго міністэрства культуры калектыўна, як запарожцы свой ліст турэцкаму султану? Не іначай, як наспеў час прэзідэнту выдаць спецыяльнае распараджэнне аб пошуку аўтараў ананімных твораў, пачынаючы з "Энеіды навыварат" і канчаючы праектам вышэйпамянёнага закона.

Па-другое, закон не павінен утрымліваць тэрміналагічна-паняційную блытаніну, накшталт "музейная рэч" замест "музейнага прадмета", "музейнай значнасці" замест "музейнага значэння". А што такое "ўласнасць" у дачыненні да музея? Так, у артыкулах праекта, звязаных з парадкам перадачы і выдачы музейных прадметаў, ужываецца выраз "са згоды музея — уласніка... па дазволе цэнтральнага органа кіравання". У адрозненне ад прыватнага музея, музей дзяржаўны ніколі не быў уласнікам прадметаў. Паўстаюць пытанні: калі музей — уласнік, то навошта дазвол? Што больш важкае ў гэтым звязе — дазвол ці згода? Што азначае выраз "будынак... на правах аператыўнага кіравання?" Уласнасць гэта ці не? Як можна забяспечыць "павагу" да правоў уладальнікаў пры ўліку рухомых каштоўнасцяў з прыватных збораў?

Па-трэцяе, закон не павінен камуфляваць адказнасць за стан спраў у музейнай сферы і тым больш не перакладаць яе на шараговых стрэлачнікаў: дырэктара і галоўнага захавальніка фондаў, якіх лёгка пакараць, але якія не маюць рэальных рычагоў уплыву на сітуацыю. Чым можа дапамагчы адміністратар музея помніку, экспанату, калі разам з супрацоўнікамі чакае грошай ад дзяржавы хаця б на заробкі і, у адпаведнасці з праектам закона, мусіць чакаць іх і далей?

Нам падаецца, што выканаўчыя і распарадчыя органы ў галіне музейнай справы не "вырашаюць наступныя задачы", а нясуць адказнасць за іх вырашэнне. Закон мусіць вызначыць правы і размежаваць меру адказнасці. Хто вінаваты ці чыя ў тым заслуга, што сёння сетка музеяў такая, а не іншая, у які бок яна развіваецца і ці развіваецца яна ўвогуле? Экстэнсіўна ці інтэнсіўна? Хто і якім чынам адказвае за музейную галіну, музейную сетку? У дзяржаўнай пасадзе якога ўзроўню персаніфікуецца адказнасць дзяржавы за ахову помніка, захаванне сабраных экспанатаў: загадчыка аддзела культуры, намесніка старшыні гар-райаблвыканкама, а, можа, першай асобы: старшыні (мэра), прэм'ера, прэзідэнта? Хто можа ў гэтай краіне спрагназаваць, што рэальны музей з яго калекцыямі, патэнцыялам, вопытам, традыцыямі дасягне хаця б 100-гадовага ўзросту? Пакуль у айчыннай гісторыі музейнай справы такіх прыкладаў не было. У той жа самы час у законе не вызначана (не абмежавана) ступень умяшання кіруючага органа ў дзейнасць музея.

Па-чацвёртае, закон не павінен зноў абыходзіць маўчаннем вызначэнне статуса музеяў-запаведнікаў, хітравата адсылаючы чытача да закона "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны". Зацікаўлены грамадзянін ведае, што і вышэйпамянёны закон не адказвае на пытанні:

— Што такое тэрыторыя музеяў-запаведнікаў — сума асобных ахоўных зон вакол розных нерухомых помнікаў ці комплекс, які вымагае асобнага рэжыму?

— ці выключаецца гэта тэрыторыя з сельскагаспадарчага або іншага гаспадарчага карыстання, на якіх умовах, каму і ў якім парадку перадаецца?

— як фарміруюцца адносіны адміністрацыі запаведніка з мясцовымі ўладамі, мясцовым насельніцтвам?

— якім чынам накіроўваюцца падаткі, сабраныя на гэтай тэрыторыі — для яе ж развіцця, ці яны патанаюць ў агульным катле пад назовам "бюджэт"?

— ці з'яўляецца ахова ландшафтаў, традыцыйнай забудовы, трасіроўкі вуліц на тэрыторыі музея-запаведніка яго функцыяй, а калі так, то чаму гэта дзейнасць не згадваецца пры іх пералічэнні?

Па-пятае. Навошта ў закон уводзіцца дэкларацыя пра "навуковую ўстанову", калі дзяржава не ў стане рэальна забяспечыць яе выкананне. Пакуль галоўнымі крытэрыямі ацэнкі дзейнасці музея застаюцца фармальныя паказчыкі — колькасць музейных прадметаў асноўнага фонду і наведвальнікаў, — музей будзе заставацца адзінкаю культасветы, прапаганды і агітацыі. Патрэбна сфарміраваць крытэрыі ацэнкі музея як навуковай установы, вызначыць яе статус, які потым павінен давацца не агулам, а прысвойвацца тым музейным установам, якія сапраўды гэтым крытэрыям адпавядаюць.

І апошняе. Вярнуся да гіпербалічнага параўнання, вынесенага ў загаловак. Вельмі б не хацелася, каб мае развагі былі расцэнены як жаданне прынізіць дасягненні, замаўчаць станоўчы вопыт, "очернить и опорочить". Калі мы ўсё яшчэ намагаемся быць ДЗЯРЖАВАЮ, то і да пошуку адказаў на пытанні трэба падзяржаўнаму падыходзіць. Прыняцце закона "Аб музеях" у такой рэдакцыі толькі зафіксуе бездапаможнасць і неабароненасць установы і прывядзе грамадства паслязаўтра да стану аб'ектыўнай неабходнасці альбо "перапякаць свежа выпечаныя" законы, альбо іх паўсюдна парушаць.

Зараз мы маем культуру, музеі, міністра і праект закона "Аб музеях". Нам бы яшчэ скласці цэльнае ўяўленне пра тое, што ёсць беларуская культура і, у адпаведнасці з гэтым разуменнем, пісаць такія законы, якія будуць для ўстаноў культуры будучага тысячагоддзя адначасова шчытом і мячом.

**А. КАЛБАСКА,**
**дактарант ІМЭФ АНБ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Бел ІПК**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Прайграліся ўшчэнт і адыграемся... Ёсць прэцэдэнт у гісторыі гразкай. Тая ж Расія верыла, што не памыляецца, калі прадавала Аляску.

●

У нас яшчэ можна жыць, з грабяжамі у нас ціха. Адно што прымушаюць плаціць па найвышэйшых тарыфах. Рабаўнік з тэлефоннай станцыі адключыў мяне за няплату. А хай бы адключыў адміністрацыю за нявыплату зарплаты. Абое, кажуць, рабое, і адміністрацыю нехта рабуе.

●

"Ён", — кажа пра сябе важная асоба, і марозная стынь халодзіць вантробы. Адкуль гэты бзік у асобы ўзнік, можа, ёсць у яе двайнік? Можа, дзейнічае нейкі атракцыён, у якім "ён" — гэта ўжо не ён? Як жа тады ўспрымаць асобу — казаць "асоба", а падразумяваць не "ён", ці казаць "ён", а мець на ўвазе: не асоба?

●

Сакратар, старшыня, дырэктар — наверсе пры любым павароце. Яго ўталі ў рэчцы, ён вынырне з рыбкай у роце. Да якой ён належыць партыі? Да той, што сёння "на варце"?

●

"Партыя аматараў піва"? Прастадушна, але хай сабе будзе. Мусім, аднак, ісці іншай дарогай, людзі. Як гэта ў дзяржаве якая ўжывае столькі зелля, абысціся без партыі ўсеагульнага апахмелля? І ўжо ад гэтай партыі, што таксама рэальна, не мець ва ўсіх епархіях мярэжу апахмяляльных? Хлябтануўшы расолу, каўтануўшы для чыну, цалкам абноўлены, ідзі на працу, мужчына! Здароўя народу прыбудзе, з'явяцца новыя вартасці, так клапаціцца аб людзях можа толькі адна партыя!

●

Ніякіх змен на Беларусі, усё як было пры імперыі? А новы джын "Бабруйскі", ад якога ў Амерыкі істэрыка? А што скажа Айова пра беларускі скотч з Магілёва! Свабоды мы, можа, не прагнем, але па самагону "цягнем".

●

— Чым адрозніваецца добры пісьменнік ад дрэннага? — спытаў аўтара славутага рамана. — Добры бачыць, калі напісалася дрэнна, дрэнны паддаецца падману. — Бывае, пісьменнік ужо ўвайшоў у літаратуру... — Тут складаней удвайне — дрэнны можа дазволіць сабе халтуру, добры — не... З даўняй гутаркі той усяго не прыпомніць, час ідзе, дрэнны выдае другі свой трохтомнік, у славутага толькі другая кніжка на чарзе.

●

Узгадваю "барацьбу з жыдамасонамі", калі рэвізавалі помнікі. У скульптурнай групы "Батлейка", што ля тэатра музычнай камедыі, адпілілі зорачкі, бо яны мелі шэсць променяў. Былі ў гэтай трагікамедыі свае дасведчаныя дырыжоры, аднак для палявання на ведзьмаў не хапала зорачак. Цяпер людзей зашораных іншымі цудзяць ворагамі: спарвайце шаўроны — коннікі забаронены.

●

— Дзядуля, як купіць дуляў? — Без брыгадзіра не магу. — А дзе брыгадзір? — Я. — Дык як жа нам купіць дуляў? — Чаго купляць — бярыце так. — Што ж ты нам галаву дурыў, камандзір? — А як жа без брыгадзіраў!

●

Гэту гісторыю пачуў у Бярэсці. Прыезджы купляў гляк. "Гэй, нетутэйшы, — паклікаў нейкі прасцяк, — хадзі да мяне патаргуйся, мо аддамо ці не за так. Ганчар чаго едзе на базар? З-за хлеба. Але яму яшчэ і пагаварыць трэба, так што падыходзь, паразумеемся, пагаворым усмак..." Чаму ўзгадалася тая гісторыя? Бо ў нас у дзяржаўным гандлі не нагаворышся .


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7317.
Нумар падпісаны 6.6.1996 г.
Заказ 2792/Г

П 123456789101112
М 123456789101112